Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 30 (4933) 28 ліпеня 2017 г.



# ПАСЛЯ ГРУНВАЛЬДА



**Часцей за ўсё слова «эпоха» для сучаснікаў — гэта толькі слова, бо паглыбіцца ў мінулае «якасна», цікава і надзвычай натуральна магчымасцяў не так шмат. Але ўжо ў дзявяты раз у Дудутках адбыўся фестываль «Наш Грунвальд», самае маштабнае беларускае мерапрыемства ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, для арганізатараў якога слова «эпоха» — хутчэй місія, чым дэвіз.**

Багатая гісторыя айчыннага рыцарства хоць і згубілася ў стагоддзях ды на старонках падручнікаў па гісторыі, але сапраўдныя турніры і жорсткія бітвы яшчэ можна ўбачыць на ўласныя вочы. За такім дзівам у сучасны беларускі «Грунвальд» прыехалі нават замежныя госці — напрыклад, часовы паверана ў справах ЗША ў Беларусі Роберт Райлі, турысты з Расіі і вандроўнік з Германіі, які параўнаў фестываль па атмасферы і значнасці з нямецкім «Актоберфэстам». Смелых рыцараў таксама даволі: у фестывалі ўзяў удзел больш за 500 гістарычных рэканструктараў.

Штогод наведвальнікі «Нашага Грунвальда» шукаюць на фестывалі не толькі драйв, але і свае карані. Арганізатары адзначаюць, што прыхільнікаў мерапрыемства становіцца толькі больш, і растлумачыць гэта можна менавіта павелічэннем цікавасці да ўласнай гісторыі і культуры. І «Наш Грунвальд» гэтую смагу ведаў наталяе, бо штогод тут зноў і зноў паўтараецца адна з самых значных падзей у беларускай гісторыі — Грунвальдская бітва, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года з удзелам больш як 50 тысяч чалавек. Сёлета замест поўнай рэканструкцыі бітвы засяродзіліся на аднаўленні аднаго з эпізодаў бою — вядома, з глыбокай прапрацоўкай, выкарыстаннем артылерыі і піратэхнікі. Як і ў далёкім XV стагоддзі, саюзныя войскі ВКЛ і Каралеўства Польскага (хоць і не ў такім вялізным складзе, як тады) скрыжавалі мячы з Тэўтонскім ордэнам. І зноў, як тады, войскі Вітаўта разбілі тэўтонцаў.

«Наш Грунвальд» стаў нават не рэканструкцыяй падзеі, а самой падзеяй — імітацыя становіцца амаль незаўважнай, калі ўдзельнік паглыбляецца ў атмасферу сярэднявечнага еўрапейскага турніру, страляе ў ціры, гуляе ў старадаўнія настольныя гульні і адчувае каларыт эпохі праз прагулкі па вуліцы майстроў ды канцэрты аўтэнтычнай музыкі. Зрэшты, фестываль — гэта штуршок звярнуць увагу на сябе ў мінулым, на дасягненні сваіх продкаў і на традыцыі, якія з часам становяцца спадчынай, але прагнуць працягу ў сучаснасці, дзе ёсць нагоды для праяўлення нашага рыцарскага руху.

Маргарыта ДЗЯХЦЯР



Фота Кацярыны Гусевай прадастаўлена турыстычным парталам VEDI.BY.

## Пункціраам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 80-годдзем народнага артыста Беларусі Дзмітрыя Смольскага. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што з імем Дзмітрыя Смольскага звязаны значныя дасягненні беларускай кампазітарскай школы. «Сваім яркім талентам, высокім прафесіяналізмам і самаадданым служэннем мастацтву Вы заваявалі сэрцы шматлікіх паклоннікаў як на радзіме, так і за яе межамі. Слоў шчырай удзячнасці заслугоўвае Ваша педагагічная дзейнасць, работа па выхаванні таленавітай моладзі», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ У лістападзе ў Кішынёве будзе ўсталяваны помнік Францыску Скарыну. На конкурс эскізных праектаў помніка беларускаму першадрукару ў малдаўскай сталіцы, які арганізоўвала Міністэрства культуры Беларусі, было пададзена дзевяць заявак. Прафесійнае журы ў складзе прадстаўнікоў Мінкультуры, Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Беларусі, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка, Беларускага саюза мастакоў пераможцам конкурсу назвала работу скульптара Генадзя Лойкі.

✔ Восенню ў Мінску на выстаўцы «Напалеон Орда (1807 — 1883). Ілюстраваная энцыклапедыя краіны» ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі прадставяць 110 работ выдатнага творцы эпохі рамантызму. У 1872 — 1883 гадах, падчас вандровак па былых усходніх землях Рэчы Паспалітай, галоўным чынам па Беларусі, Напалеон Орда стварыў больш як 1000 твораў. У яго творчай спадчыне шмат пейзажаў, у якіх знайшлі адлюстраванне мясціны, гістарычна і эмацыянальна важныя і для палякаў, і для беларусаў.

✔ Урыўкамі з вершаў беларускіх паэтаў маладыя мастакі пачалі ўпрыгожваць фасады будынкаў Магілёва. Першыя радкі ўжо з'явіліся ў адным з двароў па праспекце Міру. Верш беларускай савецкай паэтэсы Яўгеніі Янішчыц дзякуючы магілёўскай мастачцы Юліі Раткінай падарыў звычайнаму пейзажу кропельку рамантызму. Ідэя належыць выпускнікам школы ініцыятыў «Цяпліца», якая другі сезон дапамагае актыўным магіляўчанам рэалізаваць цікавыя задумы, накіраваныя на паляпшэнне гарадскога жыцця і асяроддзя.

✔ XXII Міжнародны пленэр па жывапісе «Вобраз Радзімы ў выяўленчым мастацтве», прысвечаны 145-годдзю з дня нараджэння народнага мастака Беларусі і Расіі Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, пачне працаваць у сярэдзіне жніўня. Першая частка беларуска-рускага праекта пройдзе на тэрыторыі Тульскай вобласці. 14 жніўня беларускія мастакі выправяцца ў дзяржаўны мемарыяльны гісторыка-мастацкі і прыродны музей-запаведнік Васіля Паленава. А 24 жніўня творцаў будзе сустракаць Магілёўская вобласць. Да беларусаў далучацца таленавітыя жывапісцы з Расіі, Індыі, Ізраіля, Арменіі, Літвы, Кітая і Украіны.

✔ У інтэрнэце з'явіўся таймлапс-ролік, прысвечаны аднаму з найстаражытнейшых гарадоў Беларусі — Заслаўю. Аўтар відэа — Леанід Хвашчынскі. Хоць сюжэт доўжыцца крыху больш як дзве хвіліны, за гэты час можна ўбачыць прыгожыя храмы, вуліцы, паркі, этнаграфічны комплекс «Млын» ды іншыя славутасці гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Заслаўе». Да гэтага Леанід Хвашчынскі адзін з таймлапс-ролікаў прысвяціў Мінску.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# ВАМ — ТВОРЧАЕ ЗАДАННЕ

**Творы беларускіх і рускіх класікаў, правілы абедзвюх моў вывучаюцца на занятках у школе. Вучні могуць на «выдатна» засвоіць граматыку ды пунктуацыю, лёгка адрозніць ямб ад анапесту, аповесць — ад апавядання, але ці здолее школьная праграма выгадаваць наступнага Багдановіча?**

Вядома, «навучыцца» быць літаратарам без таленту і творчага наканавання немагчыма. Без адпаведнага досведу і практычных навыкаў стаць годным паэтам ці пісьменнікам вельмі цяжка. Каб дапамагчы юным творцам рабіць першыя крокі ў свеце літаратуры, з сакавіка 2016 года пры Мінскім абласным аддзяленні Саюза пісьменнікаў Беларусі працуе школа для дзяцей «Са-Творчасць».

Сустрэчы «Са-Творчасці» ладзяцца ў самым цэнтры Мінска, але прызначаны не толькі для сталічнай моладзі: таленавітыя падлеткі прыязджаюць на заняткі з усёй Мінскай вобласці. Арганізатары кажуць, што ў гэтым дапамагае абласны выканаўчы камітэт. Склад аўдыторыі слухачоў пастаянна мяняецца: хтосьці далучаецца да школы на кароткі час, хтосьці становіцца рэгулярным наведнікам. За два гады існавання праз «Са-Творчасць» прайшлі каля 80 чалавек. На заняткі ў Мінск вучні абласных школ выпраўляюцца разам з настаўнікамі. Зразумела, прыехаць у сталіцу яны могуць толькі падчас канікул, таму «Са-Творчасць» працуе ў дзённым і завочным рэжымах. Цягам навучальных чвэрцяў дзеці займаюцца самі, а з настаўнікамі школы звязваюцца праз электронную пошту.

Ідэя стварыць месца, дзе юныя пісьменнікі і паэты могуць удасканальваць сваё майстэрства, належыць сябру Мінскага абласнога аддзялення СПБ Ірыне Карнавухавай. Разам з ёй ля вытокаў школы стаяць галоўны спецыяліст Мінскага абласнога аддзялення СПБ Тацціяна Якаўлевіч і намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення СПБ, магістр філалагічных навук Бажэна Ганушкіна.

— Заўсёды пакідаем час, каб пазнаёміцца з новымі творамі нашых дзяцей, — кажа Тацціяна Якаўлевіч. — Просім паказваць усё, што яны паспелі зрабіць у апошні час, дапамагаем стварыць размову паміж захопленымі словам і літаратурай.

Школу «Са-Творчасць» часта наведваюць паэты і празаікі. Саюз пісьменнікаў Беларусі таксама бярэ ўдзел у выхаванні творчай моладзі. Да таго ж настаўнікі і вучні «Са-Творчасці» цікавяцца беларускімі пісьменнікамі, класічнымі і сучаснымі. Прыкладам, на ўроку, прысвечаным жанру «раман», у цэнтры ўвагі аказаліся кнігі Мікалая Чаргінца «Вам — задание» і «За секунду до выстрела». Выкладчыкі зачытвалі ўрыўкі з кнігі «Вам — задание» і разбіралі мастацкія прыёмы аўтара, навучэнцы дзяліліся меркаваннямі наконт прачытаных раманаў М. Чаргінца: кнігі з ваеннай і пасляваеннай тэматыкай дасюль не страцілі папулярнасць.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# МАСТАКІ НА РАДЗІМЕ КУЗЬМЫ ЧОРНАГА

**У ліпені 2017 года Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры сумесна са студэнтамі архітэктурнага факультэта Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта на чале з вядомым мастаком і педагогам Алесем Квяткоўскім зладзілі сумеснае падарожжа-пленэр на радзіму беларускага празаіка, драматурга і публіцыста Кузьмы Чорнага — Капыльшчыну.**

Акрамя агляду маляўнічых мясцовых краявідаў і архітэктурных помнікаў, госці наведалі раённы краязнаўчы музей, дзе асаблівую ўвагу студэнтаў прыцягнуў макет палаца Эдварда Вайніловіча ў в. Савічы, створаны Настассяй Вайтэнка і Варварай Карзюк, навучэнкамі гімназіі № 75 г. Мінска імя П. В. Масленікава.



*Студэнты на кургане памяці Эдварда Вайніловіча ў вёсцы Савічы.*

Наступным прыпынкам пленэру сталі Цімкавічы — месца, дзе правёў дзіцячыя і юнацкія гады Кузьма Чорны (Мікалай Карлавіч Раманоўскі). Тут у 1908 годзе ён пайшоў у першы клас Цімкавіцкага двухкласнага вучылішча, а ў 1922-м пачаў настаўнічаць у Цімкавіцкай сямігодцы. Пазней творца лічыў сваім абавязкам прыязджаць сюды кожны год, каб паслухаць цімкавіцкія навіны, наведаць кірмаш, які размяшчаўся на месцы цяперашняга сквера, пабачыць знаёмых, якія потым станавіліся героямі яго твораў.

У Цімкавіцкай сельскай бібліятэцы гасцінна сустрэла Вольга Радкевіч. Тут мы пазнаёміліся з працай вясковай бібліятэкі, а загадчыца па-сяброўску распавяла, што цяпер чытаюць цімкаўцы і жыхары навакольных вёсачак (некаторыя з іх прыязджаюць па кніжку на кані!) і згадзіліся суправаджаць нас па мясцінах Кузьмы Чорнага.

У літаратурным музеі творцы для студэнтаў зладзілі экскурсію. Даведаліся, што Кузьма Чорны і сам добра маляваў. Таму малюнкі пісьменніка сталі асновай мастацкага афармлення, а іх арганічнае спалучэнне з экспазіцыяй дапамагае раскрыць свет перажыванняў Кузьмы Чорнага.

Студэнты-мастакі ўбачылі асабістыя рэчы Кузьмы Чорнага, фотаздымкі з сямейнага альбома, яго рукапісы і кнігі на розных мовах свету, узноўлены па ўспамінах аднавяскоўцаў інтэр'ер хаты, дзе жыў маленькі Мікалай. Асноўнае месца ў хаце займаў варштат. Дзяды і бацькі Чорнага былі ткачамі. На стале ляжыць абрус, вытканы яго маці. Навучыўся ткаць і сам Коля. Пра гэта ён напіша ў 1945 годзе ў артыкуле «Слуцкія сарвэты». Мясцовыя ўладальнікі Радзівілы прызначылі некаторай частцы прыгонных сялян замест працы на панскім полі ткаць сурвэты. Паколькі ў майстэрні месца не хапала, шмат хто ткаў дома, а ў вызначаны тэрмін здаваў пэўную колькасць вырабаў.

Далей накіраваліся ў Радзівілаўскі парк. «Па слядах» Кузьмы Чорнага спусціліся з пахілага ўзгорка праз рэшткі цяністага парку да невялікай рачулкі Мажа. Як узгадваў пісьменнік Мікола Хведаровіч, разам з Кузьмою Чорным яны любілі ў цёплы вясенні заплюшчыць вочы ў зараслі ракі лавіць рыбу і размаўляць пра тое, што не ўсім лёгка жывецца на свеце.

Развітаўшыся з Цімкавічамі, мы выправіліся ў вёску Савічы, дзе наведалі курган памяці Эдварда Вайніловіча, адноўлены на месцы пахавання прадстаўнікоў знакамітага роду. Эдвард Вайніловіч — буйны грамадскі і палітычны дзеяч Беларусі, адзін з найбагацейшых памешчыкаў Міншчыны, вядомы як фундатар Чырвонага касцёла ў Мінску, які ён пабудаваў у памяць пра заўчасна памерлых дзяцей.

Далей узялі кірунак на Скіп'ёўскі лес. Сюды маленькі Коля часта хадзіў разам са сваім дзедам Міхаілам. У лесе дзед паказваў і расказваў, як гамоняць дрэвы, як паўзе жучок і травінка хіліцца да травінкі. Нездарма потым Кузьме Чорнаму так добра будуць удавацца апісанні прыроды. «Скіп'ёўскі лес» — назва апошняй незавершанай аповесці Чорнага.

Падчас вандроўкі студэнты рабілі шмат фотаздымкаў і замалёвак, а цяпер надышоў час усведамлення і асэнсавання ўбачанага, пачутага… Мастацкае вока больш успрымальнае, можа заўважаць непрыкметнае і незвычайнае ў самых простых рэчах, тым больш што наведванне родных і блізкіх для Кузьмы Чорнага мясцін дае магчымасць пабачыць свет вачыма нашага класіка. У наступным годзе Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры плануе арганізаваць літаратурна-мастацкую выстаўку, прысвечаную Кузьме Чорнаму, дзе можна будзе ўбачыць вынікі летняга пленэру.

**Дзмітрый АНДРЭЕЎ,**
**навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры**

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**29 ліпеня** — *на свята «Бульвар, які чытае» ля бібліятэкі імя А. С. Пушкіна з удзелам брэсцкіх пісьменнікаў у межах Дня горада Брэста. Пачатак а 14-й гадзіне.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**2 жніўня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Фёдарам Палачаніным у межах акцыі «Лета з добрай кнігай» у сярэднюю школу № 2 г. Докшыцы. Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Магілёўскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**29 ліпеня** — *на Свята двара «Мы вось такія беларусы…», прымеркаванае да дня нараджэння паэтэсы Ніны Кавалёвай (г. Горкі, вул. Вакзальная, 32). Пачатак а 16-й гадзіне.*

# ЛЕТА ПАЎНОЧНЫХ ВІДОВІШЧАЎ

**Аматарам добрага «халоднага» кіно прапаноўваюць наталіцца кінастужкамі з Паўночнай Еўропы нават летам. Адмыслова да 100-годдзя Незалежнасці Фінляндыі ў межах Дня фінскага танга ў Мінску фестываль кіно Паўночных і Балтыйскіх краін «Паўночнае ззянне» ладзіць кінапаказы на трох пляцоўках 29 і 30 ліпеня.**



Паказы кароткага метра пра фінскае танга «Фінскі кароткі метр. Маладыя ды імпэтныя» адбудуцца ў бары «Харошы год» (вул. Зыбіцкая, 6) 29 ліпеня з 14:00 да 18:00. Найноўшыя фільмы маладых фінскіх рэжысёраў прэзентуюць гісторыі пра адносіны, першае каханне і сляпыя спатканні, пра аматара караоке, пра ведзьміны ночы і танцы пад вадой. Дакументальнае кіно гледачы змогуць убачыць на летняй тэрасе «Двор» кавярні *Chill Out* (пл. Свабоды, 4) а 22:00 — гэта будзе стужка Габрыэлы Апарычы «Фінскае танга». Фільм распавядае пра фінскую традыцыю танцаваць танга, якая існуе яшчэ з 1960-х гадоў, калі аргенцінскі танец стаў важнай часткай фінскай культуры і сентыментальнай душы народа.

Таксама «Паўночнае ззянне» возьме ўдзел у арт-пікніку *Freaky Summer Party* у парку *Dreamland*. Вечар у кампаніі скандынаўскага кіно пачнецца а 19:15 кароткай лекцыяй, прысвечанай кінематографу Паўночнай Еўропы і асаблівасцям стварэння кінафестывалю ў Беларусі, дырэктара фестывалю Волі Чайкоўскай. А ўжо праз паўгадзіны публіка пагладзіць дакументальны фільм «Усім відовішчам відовішча» Бенедыкта Эрлінгсана, рэкамендаваны для прагляду тым, хто захапляецца музыкай ісландскага гурта *Sigur Ros*, які стварыў саундтрэк да стужкі. На другі дзень а 19:15 арт-пікнік працягнецца фільмам Эрыка Бломберга «Белы паўночны алень» — фінскай драмай-фільмам жахаў, заснаванай на міфалогіі народа Самі. Некалі гэтая гісторыя пра каханне скарыла Канскі кінафестываль.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Падарожжа па (не)руінах

**Крэўскі замак пакінуў пасля сябе руіны і гістарычную памяць. Сёлета спаўняецца сто гадоў з моманту яго разбурэння падчас Першай сусветнай вайны. У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь гэтую падзею адзначаюць выстаўкай фотаздымкаў 1915 — 1917 гадоў з калекцыі Уладзіміра Багданава «Замак на перадавых».**

Для большасці Крэўскі замак — гэта збудаванне, вядомае роляй у падзеях дзяржаўнага маштабу. Менавіта тут у 1382 годзе забілі вялікага князя Кейстута, ледзь выратавалі ад смерці Вітаўта, а ў 1385 годзе аб'ядналі Вялікае Княства Літоўскае і Польшчу падпісаннем Крэўскай уніі. У Крэўскім замку пачалася гісторыя каралеўскай дынастыі Ягелонаў. Помнік безліч разоў быў атакаваны мяцежнікамі. Словам, пабудаваны ў пачатку XIV стагоддзя, за сем стагоддзяў існавання замак не раз станавіўся арэнай барацьбы за ўладу і нават жыццё.

Усведамляючы гістарычную значнасць Крэўскага замка, мала хто задумваецца пра ўнікальнасць крэпасці: у рэальных баявых дзеяннях замак удзельнічаў яшчэ зусім нядаўна, а апошні бой прыняў 100 гадоў таму, 21 ліпеня 1917 года: у гэты дзень сярэднявечныя муры ператварыліся ў руіны. Пакуль гэтая частка гісторыі помніка вывучаная недастаткова — дагэтуль толькі некаторыя ведаюць, што два з паловай гады падчас Першай сусветнай вайны замак знаходзіўся літаральна на перадавой, быў уключаны ў нямецкую лінію абароны.

Выстаўка Гістарычнага музея прапаноўвае пазнаёміцца з нявывучанай гісторыяй Крэўскага замка праз шэраг унікальных фотаздымкаў з калекцыі Уладзіміра Багданава. Большасць экспанатаў захоўвалася ў асабістых альбомах удзельнікаў Першай сусветнай вайны і ніколі не публікавалася. Таму цікава ўбачыць невядомыя ракурсы, прайсціся па крэпасці ў фармаце 3D, прасачыць, як разбураўся замак і, нарэшце, скласці вобраз легендарнага будынка ў яго былым выглядзе.

# МЯККАСЦЬ РОДНАГА КАЛАРЫТУ

**Год навукі выдавецтва «Бяловагруп» вырашыла адзначыць выпускам новай кнігі-альбома «Прастор родны. Беларусь» акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксандра Лакоткі.**



У 208 старонках выдання змясціліся аповеды пра адметныя месцы нашай краіны, «экскурсіі», што паказваюць этнаграфічныя асаблівасці Падняпроўя, Падзвіння, Панямоння, Папрыпяцця і Цэнтральнага рэгіёна. Займальна, зразумелай мовай аўтар адкрывае чытачу асаблівасці духоўнага жыцця нашых продкаў з іх вераваннямі, абрадамі, святамі, звычаямі, побытам, распавядае пра міфалагічныя паданні славян.

Мастацтвазнаўца, дырэктар Нацыянальнага цэнтра сучасных мастацтваў Рэспублікі Беларусь Наталля Шарангові таксама адзначыла выхад кнігі: «Стылістыка і светапогляд Аляксандра Лакоткі як даследчыка беларускай культуры і мастака пейзажу узаемадзейнічаюць асаблівае месца ў развіцці беларускага пейзажнага жывапісу. І каларыт яго палотнаў, і пластычная форма народжаны мяккасцю і памяркоўнасцю, якія ўласцівыя не толькі беларускай прыродзе, але і беларускаму народу...»

«Прастор родны. Беларусь» — гэта эсэнцыя роздумаў пра філасофскую сувязь прыроды і чалавека, перасцярога будучага пакалення аб наступствах разбурэння гэтай каштоўнай сувязі. Натхніцца прыродай будзе надзвычай лёгка, бо асобная тэма ў альбоме — візуальныя вобразы. Акварэлі, графічныя эскізы, краявіды Беларусі, створаныя ў выніку шматгадовых экспедыцый, — усё гэта суправаджае займальныя тэксты.



Паважаная Зінаіда Мікалаеўна! Ад шчырага сэрца віншуем Вас з юбілеем! Жадаем Вам шчодрага здароўя, дабрабыту, шмат доўгіх гадоў жыцця! Ніколі не старэйце, не ведайце клопатаў і хвароб, не звяжайце на няўдачы і дробныя праблемы.

Мы шчыра жадаем, каб у Вас заўсёды было досыць усмешак і сонечных дзён, геніяльных ідэй і цікавых задумак. Няхай дарога жыцця не ведае хвацкіх паваротаў, а лёс заўжды прыносіць толькі прыемныя падзеі.

З днём нараджэння!

Калектыў Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа.

## ЛіМ-каляндар

**24 ліпеня** — 95 гадоў з дня нараджэння Барыса Уксусава (1922 — 1998), беларускага акцёра, заслужанага артыста БССР.

**24 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Канстанціна Кабашнікава (1927 — 2012), беларускага фалькларыста.

**25 ліпеня** 80 гадоў адзначыў Дзмітрый Смольскі, беларускі кампазітар, педагог, народны артыст БССР.

**25 ліпеня** 75 гадоў адзначыў Часлаў Юшкевіч, беларускі валтарніст, педагог, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь.

**27 ліпеня** — 100 гадоў з дня нараджэння Зянона Паўлоўскага (1917 — 1977), беларускага жывапісца.

**28 ліпеня** — 205 гадоў з дня нараджэння Юзафа Ігнацы Крашэўскага (1812 — 1887), пісьменніка, гісторыка, выдаўца, ілюстратара, бібліёфіла, грамадскага дзеяча.

**28 ліпеня** — 115 гадоў з дня нараджэння Віктара Вальтара (1902 — 1931), беларускага паэта, празаіка, удзельніка літаратурнага руху ў Латвіі.

**29 ліпеня** — 90 гадоў з дня нараджэння Веньяміна Бурковіча (1937 — 1983), беларускага цымбаліста, заслужанага артыста БССР.

## Дайджэст

• У Беластоку збіраюцца адзначыць былую мяжу паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. Раней Беласток быў горадам дзвюх дзяржаў: адначасова належаў як Польшчы, так і ВКЛ. Пасля горад чакаў не менш супярэчлівы лёс: у 1939 годзе яго далучылі да Заходняй Беларусі і ўключылі ў склад БССР, пасля Другой сусветнай вайны разам з найбліжэйшымі раёнамі аддалі Польшчы. Зараз завяршаецца рэканструкцыя Скарупскай вуліцы, па якой калісьці праходзіла дзяржаўная мяжа. Цікава, але з аднаго боку вуліцы дамы належалі Вялікаму Княству Літоўскаму, з іншага — Польшчы. Тое, як адзначыць мяжу, вызначылі не канчаткова. Сярод варыянтаў — памежны слуп і мемарыяльная дошка.

• Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі хутка папоўніцца новым абрадам, паведамляе БелТА. Гэтым разам Міністэрства культуры звярнула ўвагу на традыцыйную гульню «Ката пячы» аграгарадка Скірмантава Дзяржынскага раёна. Напярэдадні Каляднага посту ў хаце збіраліся маладыя пары, каб спячы «ката». Жывёлу рабілі з адмысловых булак, замест хваста прымацоўвалі каўбасу. Самаробнага «ката» падвешвалі да столі і ладзілі вакол яго жартоўныя спаборніцтвы. Пераможцам лічылі таго, хто здолее адкусіць «хвост». Гульня суправаджалася спевамі, танцамі, прапеўкамі, а таксама багатай святочнай вячэрай. Звычай «Ката пячы» існаваў у вёсках Дзяржынскага раёна і дасюль захоўваецца ў некаторых сем'ях.

• У Слаўгарадскім раёне адшукалі доказы таго, што бітва на рацэ Пяшчанцы, апісаная ў «Аповесці мінулых гадоў», адбылася пад Слаўгарадам, а не ў Гомельскай вобласці ці пад расійскім Бранскам, як лічылі раней. У магільным кургане X стагоддзя знайшлі рэшткі абмундзіравання княскага дружынніка, пахаванага па паганскім абрадзе: падзеі ў «Аповесці мінулых гадоў» разгортваліся за чатыры гады да хрышчэння Русі, таму цалкам магчыма, што ён быў сярод тых вояў. Раскопкі правялі студэнты і выкладчыкі спецыяльнасці «Археалогія» Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова.

• Іспанскі горад Фігерас гэтымі днямі прыцягнуў увагу сусветнай супольнасці. Судмедэксперты эксгуміравалі рэшткі мастака-сюррэаліста Сальвадора Далі, якія захоўваюцца ў Тэатры-музеі Далі ў Фігерасе, і ўзялі пробы яго ДНК. Суд дазволіў правесці гэтую працэдуру: трэба высветліць, ці з'яўляецца мастак бацькам Пілар Абель з Каталоніі. З 2007 года жанчына змагаецца за тое, каб яе прызналі пазашлюбнай дачкой Сальвадора Далі. Калі тэст ДНК пацвердзіць словы спадарыні Пілар, яна стане спадкаемцай знакамітага сюррэаліста і атрымае значную частку яго маёмасці.

• Аматараў серыі кніг пра прыгоды юнага чараўніка Гары Потэра ўвосень чакае прыемны падарунак. У брытанскім выдавецкім доме *Bloomsbury* рыхтуюць да выхаду ажно дзве кнігі, якія маюць дачыненне да магічнага сусвету. Кніга «Гары Потэр: Гісторыя магіі — кніга выставкі» абяцае падрабязна распавесці пра дысцыпліны, што вывучаюць у школе чараўніцтва Хогвартс, а «Гары Потэр: Падарожжа скрозь гісторыю магіі» пазнаёміць чытачоў з алхіміяй, адзінарогамі ды старажытным магічным мастацтвам. Кнігі прэзентуюць падчас адкрыцця выстаўкі «Гісторыя магіі», прысвечанай дваццацігоддзю з выхаду першай кнігі Джаан Роўлінг «Гары Потэр і філасофскі камень». Заўважна, што сама Роўлінг не брала ўдзелу ў сварэнні азначаных кніг.

## Палачане



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# Спадкаемца

На пачатку дзевяностых гадоў я працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё. Тады карпункт знаходзіўся ў Наваполацку, і я апынуўся ў самым эпіцэнтры падзей, якія віравалі ў гарадах над Дзвіной. Наваполацк у той час быў цэнтрам розных супрацьстаянняў, барацьбы думак і ідэй. Сярод актыўных новых лідараў грамадскіх рухаў было нямала выкладчыкаў мясцовага політэхнічнага інстытута.

Рэктар інстытута ў той час — Эрнст Міхайлавіч Бабенк. Гэта было яго другое вяртанне ў малады горад над Дзвіной. Да гэтага былы супрацоўнік Дзяржаўнага праектна-канструктарскага інстытута ў Чалябінску ўжо ўзначальваў навучальную ўстанову, прайшоўшы шлях ад выкладчыка, загадчыка кафедры да рэктара. Пасля гэтага была адказная праца ў Маскве, ва Усесаюзным аб'яднанні «Саюзвуглевадарод». І ў 1987 годзе таленавіты адміністратар і вучоны зноў вярнуўся ў Наваполацк — на пасаду рэктара Наваполацкага палітэха.

Гісторыя роднага краю захапіла былога плешчаніцкага хлопца менавіта ўдалечыні ад радзімы. І цэнтрам гэтага захаплення стала крывіцкая Мекка — старажытны Полацк. Дзе толькі можна, шукаў інжынер-электронік і малады вучоны матэрыялы пра полацкую даўніну. Асабліва ўразіла яго гісторыя Полацкага езуіцкага калегіума, які ў 1812 годзе быў узведзены ў ранг Полацкай акадэміі. У XIX стагоддзі Полацкая езуіцкая акадэмія з'яўлялася найбуйнейшым адукацыйным цэнтрам Беларусі. Акадэміі былі падпарадкаваны езуіцкія школы ў Полацку ды іншых гарадах, такіх як Орша, Дынабург (сённяшні Даўгаўпілс), нават Адэса. У складзе акадэміі былі факультэты: моў, грамадзянскага права, тэалагічны. Акадэмія мела багатую бібліятэку, друкарню, выпускала часопіс.

Я адразу падхапіў ідэю Эрнста Міхайлавіча аб наданні маладой вышэйшай навучальнай установе Наваполацка звання Полацкага ўніверсітэта. Ідэя, якую ён выказаў мне, спецыяльна запрасіўшы на гутарку, была выдатная, але, каб яе ажыццявіць, патрэбны былі выключнай цяжкасці намаганні. Па-першае, на той час у Беларусі было толькі два ўніверсітэты — у Мінску і ў Гомелі. Па-другое, каб стаць універсітэтам, да існуючых факультэтаў тэхнічнага профілю трэба было дадаць гуманітарныя. Па-трэцяе, Полацк і Наваполацк былі абсалютна самастойнымі гарадамі са сваім начальствам і адміністрацыйным падпарадкаваннем.

Сёння мне прыемна, што і мае матэрыялы на рэспубліканскім радыё зрабілі сціплы ўнёсак у ажыццяўленне высакароднай задачы вяртання ў горад універсітэцкай славы. Але галоўная заслуга ў гэтым належала Эрнсту Міхайлавічу. Цяжка нават уявіць, колькі яму давялося прыкласці намаганняў, колькі адказных асоб пераканаць, каб у 1993 годзе паўстаў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт. Менавіта Полацкі, што неадназова падкрэсліваў рэктар. З гісторыка-філалагічным факультэтам, які праз некалькі год перамясціўся ў старажытны горад на былое месца акадэміі і нават у тыя будынкі, якія ад яе захаваліся. Гэта таксама было зрабіць няпроста, бо там размяшчаўся вайсковы шпіталь і трэба было пераадолець нямала міжведамасных перашкод, каб атрымаць іх у валоданне, рэстаўрыраваць і прыстасаваць да вучэбных заняткаў. Сёння гэта адзін са знакавых і прыгожых аб'ектаў старажытнага горада. Універсітэт стаў цэнтрам культуры, навукі і асветы для двух гарадоў, здолеў аб'яднаць самыя розныя галіны навукі, рыхтаваць спецыялістаў шырокага спектра — ад інжынераў-будаўнікоў, хімікаў да гісторыкаў і філолагаў з веданнем замежных моў.

Цяпер Эрнст Міхайлавіч саступіў рэктарскую пасаду, застаўшыся прафесарам кафедры хімічнай тэхналогіі паліва і вугляродных матэрыялаў. Ён аўтар больш як ста навуковых работ, дзвацццаці шасці вынаходстваў у галіне хімічнай тэхналогіі паліва. Узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў (1981), трыма медалямі, Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Ганаровы грамадзянін Наваполацка і Полацка. Але самае галоўнае — ён адзін са спаткаемцаў былой славы полацкіх асветнікаў і вучоных, які дапамог адрадзіць і вярнуць гэтую славу старажытнаму гораду.

# БУДЗЕМ РАЗАМ!

## Галоўны клопат усіх беларусаў свету

**Неўзабаве пасля 135-годдзя Янкі Купалы, якое адсвяткавалі ў Вязынцы, адбылася другая значная для ўсёй беларускай супольнасці падзея, цяпер ужо ў сталіцы, — VII З'езд беларусаў свету, арганізаваны Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"». У з'ездзе ўзялі ўдзел 228 дэлегатаў, з якіх 115 — прадстаўнікі беларускага замежжа з 20 краін свету. Мерапрыемства адбываецца нячаста — толькі раз на чатыры гады. Яго можна лічыць унікальнай нагодай для беларускай грамады, каб сустрэцца ды абмеркаваць пытанні супрацы дыяспары і мітраполіі.**

Маштаб з'езда, вядома, уразіў і прысутнымі асобамі, і тэмамі іх дакладаў, якія прагучалі падчас працы асноўнай панэлі ды тэматычных секцый. З вітальнымі выступамі да беларусаў замежжа звярнуліся прадстаўнікі дзяржаўных устаноў: Уладзімір Макей, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь, і Васіль Чэрнік, намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь.

— Так сталася, што мы з вамі жывём сёння ў розных дзяржавах, у розных культурных асяроддзях. Але ёсць тое, што аб'ядноўвае ўсіх нас, тое, што з'яўляецца нябачнай, але вельмі трывалай повяззю. Гэта любоў да Беларусі, да яе культуры, традыцый, духоўнай спадчыны, — прамовіў Уладзімір Макей.

З'езд беларусаў свету, з аднаго боку, — афіцыйнае мерапрыемства, а з іншага — пляцоўка для сяброўскай сустрэчы беларусаў, якіх аб'ядноўвае клопат пра захаванне беларускай мовы, культуры і гісторыі. Усё ж беларусы дыяспары не чужыя, а свае, хоць ад Радзімы



іх аддзяляюць сотні ды тысячы кіламетраў. Па словах міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, за мяжой пражывае ад трох да чатырох мільёнаў суайчыннікаў. Гэта магутная рухальная сіла, якая можа спрыяць развіццю краіны і яе ўмацаванню за мяжой. Каб наладзіць стасункі і падтрымаць беларусаў замежжа, у 2014 годзе быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь «Аб беларусах замежжа», які юрыдычна замацаваў статус «беларус замежжа» і заклаў заканадаўчую базу для супрацоўніцтва з дыяспарай.

Сёлетні сёмы з'езд быў прысвечаны тэме «Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа — выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця». Таму невыпадкова, што асноўная ўвага дэлегатаў і гасцей была засяроджана на пытанні супрацоўніцтва дыяспары і мітраполіі. Як вынік плённай працы з'езда — прапановы да дзяржаўнай стратэгіі «Беларусь-дыяспара» на перыяд да 2025 года. Прынятыя на з'ездзе дакументы актуалізуюць агульнанацыянальныя пытанні, а ўзнятыя ў іх праблемы тычацца кожнага беларуса, незалежна ад краіны пражывання ды сферы дзейнасці.

— У мяне склалася пазітыўнае ўражанне ад з'езда. Тут сапраўды прагучала ідэя дыялогу і паразумення, кансалідацыі на карысць Бацькаўшчыны, незалежна ад палітычных поглядаў. Я ўбачыў гэта і на пленарных выступленнях у першы дзень, і падчас выступленняў працы секцый на другі дзень. Скразной лініяй з'езда праходзіла тэма мовы як асновы ідэнтыфікацыі, як нацыяўтваральнага, дзяржаваўтваральнага элемента — без чаго не можа існаваць ні дзяржава, ні нацыя. Цікава было даведацца, чым сёння жыве беларуская дыяспара. Беларусы, якія выехалі за мяжу, пасяхова там рэалізаваліся, у прыватнасці ў бізнесе і сацыяльных праектах. Свае ідэі яны пераносяць у Беларусь, што дазваляе інтэгравацца ў сусветную супольнасць і ажыццяўляць перадавыя ідэі ў нашай краіне. Але ж ёсць і праблемы. Дзеля іх вырашэння, відаць, і збіраліся на з'езд, — падзяліўся думкамі Ігар Капылоў, кіраўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа, удзельнік секцыі «Беларуская мова і культура — аснова нацыянальнай дзяржаўнасці».

Спрэчныя пытанні, вядома, узнікалі. Аднак дыялог адбыўся, бо важна чуць і быць пачутымі. Прадстаўнікі дзяржаўных устаноў, якія прысутнічалі на з'ездзе, ужо маюць ідэі па супрацоўніцтве з беларусамі замежжа.

— З грамадзянамі, якія жывуць за мяжой, можна камунікаваць праз сацыяльныя сеткі ці электронную скрыню: сучасныя тэхналогіі дапамагаюць гуртавацца нягледзячы на аддаленасць. Пытанне толькі ў тым, хто ў якім напрамку будзе працаваць. Напрыклад, супраца магчымая ў сумесным даследаванні архіваў для навукоўцаў і ў галіне стварэння Нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання. Галоўнае — карыстацца напрацоўкамі, якія ўжо ёсць у беларусаў замежжа і беларусаў мітраполіі. Нам вельмі патрэбна ствараць для дзетак фільмы і мультфільмы на беларускай мове, навукова-папулярныя перадачы. Таксама мне падаецца, што варта было б падумаць пра музычны канал, які б цалкам трансліраваў беларускамоўную музыку, — распавяла Алена Анісім, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь VI склікання, мадэратар секцыі «Беларуская мова і культура — аснова нацыянальнай дзяржаўнасці».

Беларусы замежжа сапраўды вельмі актыўна выкарыстоўваюць сацыяльныя сеткі для абмеркавання агульных спраў, з іх дапамогай дамаўляюцца пра святкаванне традыцыйных беларускіх святаў. На сайце Міжнароднага грамадскага аб'яднання «Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"» ёсць спасылкі на сайты беларусаў замежжа, там можна знайсці шмат карыснай інфармацыі пра нашых суайчыннікаў у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Ізраілі, Казахстане, Расіі ды іншых краінах, што таксама спрыяе збліжэнню з беларусамі замежжа.

Каштоўна, што дыяспара мае архівы з унікальнай перыёдыкай. Некаторыя адсканаваныя кнігі можна знайсці і ў інтэрнэце. Напрыклад, на сайце Кафедральнага Сабора Святога Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку ў раздзеле «Літаратура» ёсць доступ да рэлігійна-грамадскага часопіса праваслаўных беларусаў пяцідзясятых — шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя «Голас царквы», прысвечанага Калядам і Вялікадню. Са старадрукаў і рукапісаў можна падзівіцца на Біблію Францыска Скарыны, напісаную па-старабеларуску ў Празе ў 1517 — 1519 гадах, а таксама Трэбнік Пятра Магілы, выдадзены ў Кіеве ў 1646 годзе.

Гэта толькі некалькі прыкладаў захавання беларускай гісторыі дыяспарай Амерыкі. А колькі такіх архіваў раскідана па ўсім свеце! Трапна заўважыла на з'ездзе беларусаў свету Наталля Гардзіенка, намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва: «Хто валодае архівамі, той валодае гісторыяй». Таму будзе актуальным стварэнне навуковага цэнтра па вывучэнні беларускай дыяспары пры Акадэміі навук ды Дзяржаўнага культурна-інфармацыйнага цэнтра беларусаў замежжа «Беларускі дом» у Мінску. Зрэшты, менавіта з такім зваротам звярнуліся дэлегаты з'езда да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да Нацыянальнага сходу і Савета Міністраў нашай краіны. Улічваючы гэта, ёсць спадзяванне на агульную будучыню мітраполіі і дыяспары, захаванне беларускай ідэнтычнасці і ўмацаванне нашай дзяржаўнасці.

**Марына ЯЎСЕЙЧЫК,**
**фота аўтара**

# СРОДАК ПРАГРЭСУ

**Гісторыя кнігадрукавання непарыўна звязана з узнікненнем і развіццём пісьменнасці. Цягам стагоддзяў людзі шукалі спосабы друкаваць кнігі. Самым раннім метадам механічнага ўзнаўлення тэксту і ілюстрацый стала ксілаграфія — атрыманне адбіткаў з цэльнай гравіраванай драўлянай формы. Найбольш старажытны тэкст, надрукаваны ксілаграфічным спосабам, з'явіўся каля 751 г. у Карэі. Першае дакладна датаванае выданне з цэльных гравіраваных форм — будыйская «Алмазная сутра» — выйшла 11 мая 868 г. у Кітаі. У Еўропе падобныя выданні з'явіліся прыкладна ў 1430 г.**

У Кітаі каля 1041 — 1048 гг. былі зроблены спробы стварэння кніг з выкарыстаннем наборнага шрыфту з абпаленай гліны (вынаходца Бі Шэн). З XIII ст. там пачалі друкаваць, выкарыстоўваючы драўляныя наборныя элементы, у Карэі — металічныя (з 1234 г.). Вынаходнікам кнігадрукавання з дапамогай наборнага шрыфту ў Еўропе стаў нямецкі друкар Іаган Гутэнберг, які ў 1457 г. разам з Петэрам Шоферам выдаў у Майнцы «Псалтыр», дзе ўпершыню з'явіліся шматколерныя адбіткі. У хуткім часе кнігі сталі выдаваць у Італіі, Швейцарыі, Францыі, Венгрыі, Іспаніі, Англіі ды іншых краінах.

Славянскае кнігадрукаванне ўпершыню з'явілася ў Чэхіі (каля 1468 г. на чэшскай мове выйшла кніга «Траянская хроніка»). Кнігадрукаванне кірылічным шрыфтам пачалося ў Кракаве ў 1491 г., калі Швайпольт Фіёль выдаў «Актоіх» і «Часаслоў». У канцы XV ст. друкарні існавалі ўжо ў 260 гарадах Еўропы, дзе было выдадзена каля 40 тыс. кніг агульным тыражом больш за 10 млн экз. З'яўленне друкаванай кнігі ў 1-й чвэрці XVI ст. на ўсходнеславянскіх землях звязана з дзейнасцю славутага палачаніна, асветніка-гуманіста, пісьменніка Францыска Скарыны. 6 жніўня 1517 г. ён выдаў у Празе «Псалтыр» — сваю першую кнігу на царкоўнаславянскай мове ў беларускай рэдакцыі. Заснавальнікам кнігадрукавання ў Расіі і на Украіне лічыцца Іван Фёдараў, які ў 1564 г. разам з Пятром Мсціслаўцам выдаў у Маскве кнігу «Апостал» і ў канцы 1572 — пачатку 1573 г. заснаваў у Львове друкарню. Вялікі ўплыў на распаўсюджванне і развіццё кнігадрукавання зрабілі буйныя выдавецкія прадпрыемствы Эльзевіраў, Альда Мануцыя, Плантэнаў ды іншыя, што пачалі ўзнікаць у XVI ст.

Дзякуючы шырокім гандлёвым, культурным і палітычным сувязям з канца XV ст. еўрапейскія друкаваныя выданні былі вядомы і на беларускіх землях. Іх завозілі з Польшчы, Усходняй Прусіі, Маскоўскай Русі, Украіны. У кнігах мелі патрэбу феадалы, кіруючыя колы, духавенства, гарадское насельніцтва. Неабходнасць стварэння ў сталіцы ВКЛ друкарні ўсведамлялі ўжо ў першай чвэрці XVI ст. Яшчэ да прыняцця Першага Статута Вялікага Княства Літоўскага 1529 г. на Віленскім сейме 6 снежня 1522 г. вялікі князь ВКЛ і кароль польскі Жыгімонт І Стары абяцаў выдаць яго бітымі літарамі. Рэалізаваць гэта не ўдалося, аднак першая друкарня ў Вільні была створана менавіта ў гэтым годзе, і яе заснавальнікам стаў Францыск Скарына, які адным з першых зразумеў вялікую гістарычную ролю друкаванай кнігі як крыніцы ведаў і асветы, сродку культурнага і навуковага прагрэсу.

У 2-й палове XVI ст. у сувязі з развіццём феадальных і грамадскіх адносін, пашырэннем Рэфармацыі і абвастрэннем царкоўна-рэлігійнай барацьбы, рэалізацыяй палітычных планаў, у тым ліку уніі з Польшчай попыт на кнігі ў ВКЛ рэзка павялічыўся. У гэты час кнігадрукаванне развівалася дзякуючы дзейнасці некаторых прыватных, пратэстанцкіх, а таксама праваслаўных друкарняў, якія існавалі не толькі ў сталіцы княства і буйных гарадах, але і ў прыватных маёнтках, пры манастырах. З XVII ст. інтэнсіўнае развіццё атрымала ўніяцкае кнігадрукаванне, пашыраласа таксама выданне кніг лацінскім шрыфтам. У 2-й палове XVIII ст. на тэрыторыі Беларусі з'явіліся выдавецтвы, якія мелі рысы дзяржаўных прадпрыемстваў: Магілёўская прыдворная і Гродзенская каралеўская друкарні.


Фота Кастуся Дробава.

*Евангелле 1644 года.*

Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) і далучэння беларускіх зямель да Расійскай імперыі ў айчынным кнігадрукаванні ў канцы XVIII ст. вызначыўся новы напрамак — выданне кірылічных кніг грамадзянскага шрыфту. Яны выходзілі ў мясцовых друкарнях у Вільні, Гродне, Полацку, Магілёве.

Асаблівасцю беларускага кнігадрукавання ў XVI — XVIII стст. быў шматмоўны і шматканфесійны характар. Выпускаліся кнігі на старабеларускай, царкоўнаславянскай, польскай, лацінскай, французскай, нямецкай і іншых мовах кірылічным і лацінскім шрыфтамі. Яны адлюстроўвалі ўсе бакі жыцця беларускага народа, значна ўплывалі на станаўленне і развіццё нацыянальнай культуры, вызначаліся выключнай разнастайнасцю — тэматычнай і жанравай. Друкаваліся выданні Біблії, тэалагічная і палемічная літаратура, кнігі па гісторыі, статуты ВКЛ, канстытуцыі сеймаў, зборнікі прававых актаў і творы выдатных дзеячаў еўрапейскага Адраджэння, пераклады сучасных і старажытных аўтараў, навуковая і вучэбная літаратура ды інш. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі захоўваецца самы вялікі ў нашай краіне збор беларускіх стардрукаваных выданняў, выпушчаных у XVI — XVIII стст. Яны з'яўляюцца яркім сведчаннем высокага развіцця айчыннай культуры і каштоўнай крыніцай для даследавання нашага мінулага.

Знамянальная дата ўключана ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА і шырока адзначаецца ў 2017 г. у Беларусі і многіх краінах свету. Рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенні святкавання распрацаваў комплексную праграму розных юбілейных мерапрыемстваў: адбудуцца міжнародныя выстаўкі, круглыя сталы, навуковыя і навукова-практычныя канферэнцыі, сімпозіумы, фестывалі, прэзентацыі ды інш.

Нацыянальная бібліятэка Беларусі рыхтуе міжнародны кангрэс «500 год беларускага кнігадрукавання», міжнародны выставачны праект «Францыск Скарына і яго эпоха». У 2017 г. будзе завершаны міжнародны навуковы і выдавецкі праект «Кніжная спадчына Францыска Скарыны». Яго асновай з'яўляюцца электронныя копіі кніг першадрукара, што захоўваюцца ў бібліятэках і музеях Беларусі, Расіі, Украіны ды іншых краін. Факсімільнае ўзнаўленне выданняў Ф. Скарыны, падрыхтаванае Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі сумесна з Белзнешэканамбанкам, з максімальнай паўнатой адлюстроўвае ўсе асаблівасці арыгіналаў. Для лепшага разумення сутнасці і значэння спадчыны Скарыны кожная кніга суправаджаецца навуковым каментарыем, а таксама перакладам прадмоў і пасляслоўя на беларускай, рускай і англійскай мовах.

Пяць стагоддзяў таму выйшла з друку першая беларуская кніга. Сёння кніжная справа Беларусі дасягнула значных поспехаў. Беларускую кнігу ведаюць далёка за межамі краіны. Яна як адметная прадукцыя айчынных выдаўцоў штогод прысутнічае на міжнародных кніжных кірмашах і неадноўчы атрымлівала ўзнагароды. Гэта сведчанне таго, што нашчадкі вялікага славянскага першадрукара годна працягваюць яго справу.

**Кацярына ВАРАНЬКО,**
**вядучы бібліёграф**
**Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі**

# АБ'ЯДНАНЫЯ БОЖЫМ СЛОВАМ

## Францыск Скарына і Марцін Лютэр у адной выстаўцы

У Мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» прадставілі выставачны праект, прысвечаны адначасова 500-годдзю беларускага кнігадрукавання і Рэфармацыі. Выстаўка арганізавана пры дапамозе Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Беларусі, а таксама грамадскага аб'яднання «Масты».

Калі 500 гадоў таму Францыск Скарына надрукаваў першыя беларускія кнігі і тым самым даў пачатак беларускаму кнігадрукаванню, то Марцін Лютэр, у сваю чаргу, 500 гадоў таму размясціў 95 тэзісаў на дзвярах Замкавай царквы ў нямецкім горадзе Вітэнбергу. Яго тэзісы — разважанне пра чалавека, яго сумленне і ўнутраную свабоду.

— Францыск Скарына і Марцін Лютэр 500 гадоў таму аказалі велізарнае ўздзеянне на народы сваіх краін, — адзначыў на адкрыцці праекта Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Беларусі Петэр Дэтмар. — Іх аб'ядноўвае божае слова, якое пайшло ў народ дзякуючы развіццю кнігадрукавання. Памятаць гэтыя даты ў наш час — значыць паважаць сваю культуру і дапамагчы ёй быць надалей замацаванай у грамадстве. Я бачу, як сёння беларусы захоўваюць спадчыну, і гэта выклікае гонар, павагу да вашага народа. Мы таксама шануем імя Лютэра і вельмі ўсцешаны, што сёння імёны такіх знакамітых асоб гучаць у межах адной імпрэзы.

Выстаўку ўмоўна можна падзяліць на дзве паўнавартасныя часткі. Першая прадстаўлена ў манументальна-дакументальным стылі: шмат інфармацыі, якая распавядае пра тэолага, пісьменніка, заснавальніка лютэранскай царквы Марціна Лютэра. Арганізатары прадставілі дакументальныя запісы не пад шклом, а зрабілі дакументы аб'ёмнымі экспанатамі, якія дазваляюць гледачу даведацца пра рэфарматара больш, нават адкрыць малавядомыя факты. Другая частка — мастацкая: габелены Алы Губарэвіч, прысвечаныя беларускаму асветніку.

Як заўважыла на адкрыцці праекта кіраўнік грамадскага аб'яднання нямецкай культуры «Масты» Вольга Штокман, Францыск Скарына і Марцін Лютэр былі вельмі патрэбнымі не толькі краінам, дзе нарадзіліся, але і ўсяму свету. Так, Францыска Скарыну сёння ўспамінаюць не толькі ў Беларусі, Празе і Польшчы, а Марціна Лютэра паважаюць за моцны ўплыў на меркаванні і ўклад жыцця нават беларусаў: пры тым, што рэфарматар ні разу не быў на нашых землях, але шмат хто памятае, што ў даваенным Мінску меліся дзве лютэранскія царквы.



*Частка экспазіцыі, прысвечаная Францыску Скарыну.*

**Вікторыя АСКЕРА**

# Гумар абнадзейвае

**Лепей жартаваць, чымся гараваць! Сярод беларускіх літаратараў ёсць скептыкі і меланхолікі, а ёсць веселуны і жартаўнікі, якія заўважаюць недарэчнасці толькі з усмешкай. Аўтараў, шчодрых на добры настрой, аб'яднала выдавецтва «Чатыры чвэрці», дзе ў 2014 годзе была заснавана серыя «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». Сёння ў гумарыстычнай бібліятэчцы выдавецтва налічваецца ўжо дванаццаць кніг — добрая лічба, каб падагульніць зробленае.**

## ПАЭТАМ

Нават калі шаноўны чытач не аматар жартаў, але займаецца літаратурнай работай ці тым больш піша вершы, у гэтай серыі яго чакаюць тры выдатныя кнігі, якія ўздымаюць не толькі настрой, але і прафесійную кампетэнцыю. Гэта «Тары-бары» Анатоля Зэкава (2015), «Прыколы ад Міколы» Міколы Шабовіча (2015), «Эх, мне б — Дункан» Пятра Радзечкі (2016). У першых дзвюх кнігах змешчаны выключна літаратурныя пароды, у трэцяй яны складаюць ладны раздзел.

Літаратурная пародыя — камічнае наследаванне мастацкаму твору, часцей за ўсё — высмейванне няўдалых вершаваных радкоў. Таму парадыста можна лічыць родным братам літаратурнага крытыка. Каб патлумачыць у крытычным ці літаратуразнаўчым артыкуле, чаму словы кепска спалучаюцца ў страфе, а паэны выраз атрымаўся няўдалым, патрэбны грунтоўны семантычны ці стылістычны аналіз, які можа быць дастаткова складаным для ўспрымання. Парадыст падыходзіць да паэтычных няўдач больш свабодна і творча, таму пародыя нашмат больш эфектыўная за аналітычны артыкул.

Дзякуючы хвосткаму вершыку адразу робіцца відавочнымі банальнасці, недарэчнасці і пралікі, якія не давялося схаваць за натхнёнасцю ці глыбакадумнасцю. Напрыклад, вось як адгукнуўся Анатоль Зэкаў на правакатыўныя радкі Кастуся Жука «...Па расхрыстаных лугах / Ходзяць ногі, ходзяць думы...»:

*То не жартачкі, а жах!*
*І не сніцца ўсё нібыта...*
*Па расхрыстаных лугах*
*Ходзяць рыфмы,*
*Ходзяць рытмы.*
*Ходзяць вобразы і словы*
*Па лугах зусім няспешна...*
*Быў бы з пугай пастуховай,*
*Дык загнаў бы іх у вершы.*

У шэрагу аўтараў, чые паэтычныя радкі сталі нагодай для ўсмешкі Анатоля Зэкава, Міколы Шабовіча і Пятра Радзечкі, — не толькі малавядомыя літаратары, але і знакамітыя творцы: Анатоль Вярцінскі, Навум Гальпяровіч, Леанід Дранько-Майсюк... У кожнага здараюцца не лепшыя радкі — таму не варта крыўдзіцца на парадыстаў. Тым больш, што літаратурныя пароды, прачытаныя цягам аднаго вечара, потым неаднойчы прымусяць нешта выкрасліць ці перапісаць і такім чынам удасканаліць свае творы.

Літаратурная пародыя неабавязкова ўтрымлівае адмоўную ацэнку вершаваных радкоў. Гэта можа быць усмешка з героя твора, які, напрыклад, дэманструе дзіўнае, эгаістычнае стаўленне да аб'екта сваёй сімпатыі. Добрая пародыя — гэта таксама раскрыццё з'явы, пачуцця, якое было ў вершы прыхаваным, завуаляваным. Такіх твораў нямала ў Анатоля Зэкава, асабліва ў самым вялікім раздзеле «Маштабы кахання». Нават «гладкія» радкі робяцца нагодай для іроніі ды інтрыгоўнай гісторыі...




## РАЗНАСТАЙНА!

Тэма прыватных дачыненняў — адна з самых запатрабаваных сярод гумарыстаў. Мужчыны любяць апісваць пікантныя камічныя сітуацыі, а вось жанчыны часцей імкнуцца праз гумарыстычныя вершы нагадваць пра сакрэты сямейнага шчасця ды пра тое, як важна кабеце быць часам хітраватай і стрыманай, каб у доме панаваў лад. Знакамітае выслоўе «бабу б'е не мужык, а язык» стала нагодай для большасці твораў Надзеі Салодкай («Смеху варта», 2015). Надзея Стэфанаўна — адна з трох аўтарак-жанчын серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае». У пераважна мужчынскай суполцы кампанію ёй склалі Ірына Фамянкова («Смех для всех») і Рэгіна Рэўтовіч («І смех і гора»).

Вядома, свет гумарыстычных твораў — гэта пераважна прадказальныя сюжэты, сітуацыі, канфлікты, добра вядомыя вобразы-тыпажы. Нядобрая жонка наставляе рогі мужу, дзякі заглядаюцца на даўганогіх дзяўчат, медыкі здзіўляюць пацыентаў сваёй непасрэднасцю, зяць марыць нашкодзіць цешчы: «*Паеду летам на Гаваі! / Дарагавата, не бяда. / Казалі мне, што там бывае / Заўсёды чыстая вада. / Для жонкі сонейка навалам, / Для дзетак — белы пляж дугой. / І ўжо ніякі не ёсць нямала / Акул для цешчы дарагой*» (Уладзімір Цанунін).

Высмейваюцца недарэкі, гультаі і п'янчугі, людзі несумленныя, безгаспадарлівыя, захопленыя віртуальным жыццём. Аб'ектам кпінаў (так бы мовіць, з вясковага пункту гледжання) часта паўстаюць гараджане, якія адвыклі ад працы альбо не ўмеюць ашчаджаць грошы. Насьбітамі гэтых адмоўных якасцей нярэдка робяцца «гарадскія» ўнукі, якія здзіўляюць вяскоўцаў сваімі размовамі.

У серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» можна адшукаць творы розных жанраў: эпіграмы, байкі, паэтычныя перапрацоўкі легенд і народных казак, вясёлыя аповеды, палітычную сатыру. Так, успаміны пра савецкую эпоху натхнілі Міколу Чарняўскага на «Оду вадзе»: «*У нас на ўсё быў дэфіцыт, / У нас на ўсё быў свой ліміт. / Адной вады не шкадавалі, / Яе муцілі, / Разлівалі. / На сходах розных выступоўцы / Пілі графінам, / Не па стопцы. / Ракой цякла яна ў даклады, / Што ёсць вада, / Былі ўсе рады. ...*».

На агульным гумарыстычным фоне вылучаюцца творы, якія адрозніваюцца настраёвасцю, больш блізкія да лірычнага верша. У кнізе Міколы Чарняўскага «Гарэм на балконе» (2017) гэта, напрыклад, верш «Дуля з макам», дзе аўтар з настальгіяй згадвае мак як найлепшую прысмаку дзяцінства і спачувае расліне, якая амаль знікла з гародаў: «*Мак... Ён быў для нас прынадай: / Частаваў не раз дзяцей, / Як улетку спеў на градах / Ён, цыбаты дабрадзей*».

Дарэчы, у серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» ёсць і адметныя выданні, дзе гумарыстычныя творы дакладна не пераважаюць над іншымі. Гэта зборнік апавяданняў гомельскага пісьменніка Васіля Ткачова «На всё село один мужик» (2015) і зборнік вершаў Міколы Маляўкі «Нябесны фатограф» (2016). Сёлета ж новыя кнігі ад выдавецтва «Чатыры чвэрці» займелі Уладзімір Цанунін і Казімір Камейша. Зборнік Уладзіміра Цануніна «Люстэрка» ўсцешыць чытача тэматычнай разнастайнасцю, бо тут сабраны жарты на ўсе выпадкі жыцця. Вершаваныя анекдоты і гумарыстычныя вершы падзелены на дзесяць раздзелаў: «Не шпрыцом выцісната», «П'яныя выбрыкі», «Школьныя замалёўкі», «Пра людзей у пагонах»... Кароткія дасціпныя творы Уладзіміра Цануніна — аптымістычная нагода, каб распачаць знаёмства з серыяй. У кнізе Казіміра Камейшы «З агню ды ў прысак» ладную частку складаюць нататкі, замалёўкі, мініяцюры:

*«Памахаўшы ў паветры новым паэтычным зборнікам, мой знаёмы прызнаўся слухачам:*

*— Гэта кніга вельмі дарагая мне... — зрабіў паўзу і дадаў: — Бо я выдаў яе за ўласныя грошы».*

## ПРА ЛІЧБЫ

Кароткі агляд кніг, якія выйшлі ў серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае», дазваляе вельмі добра ўявіць іх верагодных чытачоў. Вядома, гэта будуць не гарадскія інтэлектуалы, а вяскоўцы, жыхары невялікіх мястэчкаў, якія любяць рыбалку, гадуюць курэй ды коз, жартуюць з недарэчных тостаў «філолухаў», лечацца настойкай з мухамораў — рыхтык, як у творах дасціпных гумарыстаў. На сталe ў вясковай хаце не пабачыш новую кнігу Сяргея Дубаўца ці збор твораў Уладзіміра Дубоўкі. А вось кнігі Міколы Чарняўскага, Надзеі Салодкай ці Міколы Маляўкі з лёгкасцю можна ўявіць у сялянскім інтэр'еры. «Несур'ёзна пра сур'ёзнае» — надзвычай дэмакратычны праект, які прадугледжвае шырокую чытацкую аўдыторыю (напрыклад, у кожнай кнізе можна знайсці вершык, які пацешыць маленькіх чытачоў). Таму добра ўяўляюцца і больш маштабныя рэчы.

...Вось на аўтамабілі выдавецтва з лагатыпам серыі аўтары двойчы на месяц выпраўляюцца ладзіць святы гумару ў беларускіх вёсках і мястэчках. Тры літаратары і адзін гарманіст — ужо неблагая вандроўная каманда. За выхадныя можна наведаць вёсак сем — узняць людзям настрой, прадаць кнігі і да таго ж прасоўваць брэнд выдавецтва. Вясёлыя фэсты сабралі б наведнікаў, бо праграма сельскіх ДК не цешыць разнастайнасцю...

Цалкам магчыма, што прэзентацыі кніг адбываюцца неаднойчы, у тым ліку на радзіме творцаў — у Вілейцы і Станькаве, у Патапаўцы і Бадзенях. Аднак тыраж кніг, якія выходзяць у серыі «Несур'ёзна пра сур'ёзнае», няўхільна зніжаецца: ад трохсот да дзевяноста дзевяці асобнікаў. Талент аўтараў і праца выдавецтва па невытлумачальных прычынах запатрабаваныя нашмат менш, чым можна было б чакаць. На шчасце, самых аўтараў гэта не вельмі засмуціць: пажартуюць нязлосна, напішуць новую байку ці эпіграму. Смех — найлепшыя лекі, і дванаццаць кніг беларускага гумару — дзейсная зброя супраць дэпрэсіі!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# КЛАСІЧНАЯ ЛІЧБА

**Калі гартаем збор твораў вядомага паэта, то часам спыняем сябе на думцы, што не кожны верш настолькі канцэптуальны ці адметны ў мастацкім плане, каб захапіць аматара літаратуры. Затое ў зборы твораў альбо ў шматлікіх паэтычных зборніках абавязкова знойдзецца некалькі дзясяткаў вершаў, якія будуць сапраўднымі залацінкамі прыгожага пісьменства. Калі такіх вершаў набярэцца цэлая сотня, то мы дакладна маем справу з класікам! «100 вершаў» — новая кніжная серыя выдавецтва «Мастацкая літаратура». Першая кніга серыі — «Я зноўку тут» Міхася Стральцова. Да блізкага ўжо юбілею Пімена Панчанкі выйшаў з друку другі зборнік — «Сэрца маё».**

Адметнасць кніг — цікавае мастацкае афармленне. Беларускія чытачы даўно прызвычаіліся, што зборнік вершаў — гэта прывабная вокладка і «сухія» чорна-белыя старонкі. У серыі «100 вершаў» вокладка шматлікія ілюстрацыі: на добрую паэзію не шкада і двух дзясяткаў каляровых старонак. Для афармлення кнігі Міхася Стральцова выкарыстаны работы жывапісца, «фотарэаліста» Валерыя Шкарубы. Рэпрадукцыі карцін выдатнага пейзажыста Гаўрыіла Вашчанкі аздобілі зборнік Пімена Панчанкі.

Што падштурхнула выдавецтва запачаткаваць новую серыю? Распавядае Віктар Шніп, укладальнік зборнікаў і галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура»:

— Мы заўважылі, што фаліянты старонак на трыста, у якіх акрамя вершаў няма за што зачапіцца воку, не збіраюць патрэбныя бібліятэчныя заказы. А 200 — 300 асобнікаў для кнігарань выдаваць не выпадае. Кніжкі будуць вельмі дарагія і мала хто іх купіць. Таму мы і прыдумалі серыю «100 вершаў». Такая колькасць твораў можа змясціцца на 70 — 140 старонках. Звярнуліся ў Нацыянальны мастацкі музей з прапановай, каб гэтая серыя была нашым супольным праектам. Ідэю ў музеі падтрымалі. Мы аддаём рукапіс кнігі ў музей, і мастацтвазнаўцы вызначаюць, творы якіх мастакоў будуць добра пасаваць да вершаў.




У наступным годзе ў серыі «100 вершаў» пабачаць свет кнігі Уладзіміра Караткевіча «Беларуская песня» і Яўгеніі Янішчыц «Кахання сад і ластаўка вясны». Пакуль што ў новай серыі будзе прадстаўлена толькі класіка.

**Юлія ШПАКОВА**

# АЛЬБУЦЬ — НЯСВІЖ — РЭГЕНСБУРГ — БРУКЛІН

## Адметны лёс Міхася Міцкевіча

**13 ліпеня 2017 г. споўнілася сто дваццаць год з дня нараджэння Міхася Міцкевіча (Антося Галіны), беларускага пісьменніка, настаўніка і грамадскага дзеяча, малодшага брата Якуба Коласа.**



*Міхась Міцкевіч, 1980-я гг.*

Нарадзіўся Міхась Міцкевіч у тым куточку беларускай зямлі, які так хораша апеты на старонках «Новай зямлі» яго старэйшым братам Кастусём. У Альбуці і Мікалаеўшчыне прайшлі яго дзіцячыя гады. Дзядзька Антось вучыў яго першай грамаце і працы на гаспадарцы. Пасля дзядзькавых навук было лёгка вучыцца ў пачатковай школе. Міхася захаплялі кніжкі, і ён прысвячаў ім увесь вольны час. Вельмі рана пазнаёміўся ён з творчасцю старэйшага брата. *«Рукапісы ляжалі ў беспарадку ў карзіне, плеценай з агаленых ракітных дубцоў на манер чамадана, толькі вышэйшай, блізу падкалена вышыні,* — успамінаў Міхась. — *Чытаць іх давялося яшчэ з маленства, толькі ўрыўкамі, тайком улазячы ў тую карзіну»* (М. Міцкевіч «Якуб Колас»). Наглядаў Міхась і за настаўніцтвам старэйшага брата, які падчас працы ў Пінкавіцкай школе ўзяў малодшых братоў да сябе пасля смерці бацькі. У далейшыя часы знаёміцца з творамі брата дапамагала Міхасю газета «Наша ніва», якую Кастусь для яго выпісваў. Пра гэта сведчыць наступны цікавы запіс Якуба Коласа, які пісьменнік збіраўся паслаць у газету: *«P. S. Чаму не пасылаеце маму брату газеты. Два апошнія №№ не прышлі. А я грошы праслаў на ўвесь год. Хіба мае грошы трэскі? Адрас брата: ст. Столпцы. М. губ. М. М. Міцкевічу. Спраўцеся. Якуб Колас».* Міхась, адзіны з чатырох братоў Якуба Коласа, паступіў у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, спрабаваў сябе ў літаратурнай творчасці. Першая публікацыя з'явілася ў 1917 годзе ў газеце «Вольная Беларусь», рэдактарам якой быў Язэп Лёсік, родны брат маці Міхася. У той час Якуб Колас знаходзіўся ў Пярмі і на Румынскім фронце і апеку над Міхасём узяў дзядзька Язэп. На старонках «Вольнай Беларусі» пабачылі свет творы Міхася Міцкевіча: «Не хапіла сілы», «Зводы», «Дзве волі», «Блудлівыя дарогі» ды інш. Кароткі фельетон «Мікіта абстаівае сваіх» (Вольная Беларусь, № 3) быў перапрацаваны і выдадзены асобнай кніжкай у суаўтарстве з Язэпам Лёсікам пад назвай «Як Мікіта бараніў сваіх» (Мн., 1917). Тады Міхасю было 20 гадоў.

Міхась Міцкевіч, Міхась Мяцёлка, М. М-ч — так звычайна падпісваў малодшы брат Якуба Коласа свае публіцыстычныя творы, якія вызначалі ролю настаўнікаў і інтэлігенцыі ў нацыянальным адраджэнні, абаранялі беларускую мову і культуру, спрыялі абуджэнню самасвядомасці. Апавесці і апавяданні Міхась найчасцей падпісваў псеўданімам Антось Галіна. Улічваючы гэтыя два напрамкі творчасці Міхася Міцкевіча, Максім Гарэцкі ў кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры» адзначыў, што ён *«вельмі спадзейны малады бэлетрыст і паважаны публіцыст».* Творы Міхася Міцкевіча друкаваліся таксама ў выданнях «Звон» і «Беларусь».

Літаратурную дзейнасць Міхась Міцкевіч спалучаў з працай на полі ў родных мясцінах, а потым з працай настаўніка. Беларуская школьная рада Меншчыны 15 кастрычніка 1919 года прызначыла Міхася настаўнікам беларускай мовы ў Мінскай Беларускай Гімназіі. Да працы настаўніка Міхась ставіўся вельмі адказна. Ён лічыў, што *«галоўная моц у справе нацыянальнага адраджэння, галоўная рухомая сіла культурнага поступу і духоўных здольнасцяў нацыі, гэта яе родная школа...» (М. Міцкевіч «Якая ў нас інтэлігенцыя»).* Як сведчаць дакументы, Міхась клапаціўся пра забеспячэнне гімназіі кніжкамі, неабходнымі для выкладання роднай мовы, рыхтаваў матэрыялы для дзіцячай чытанкі. Так, жывучы ў Амерыцы, у лісце да спадарыні Савёнак ён пісаў: *«Памятаецца, як хадзілі з Лёсікам у Аддзел Асьветы ў справе выданьня "Нашай Крыніцы" — чытанкі для дзяцей школьнікаў. Я досыць шмат і матэрыялаў у яе даў. Нейкі досыць грубіла глядзеў на нас ваўкавата. Хутка пасьля гэтага я, паехаўшы дадому, атрымаў ад Лёсіка пісьмо. Ён напісаў — гэта дакладна: "Сядзі дома і ня рыпайся". Гэтыя словы я зразумеў добра».*

Міхась застаўся ў родных мясцінах у Смольні, працуючы на гаспадарцы разам з братам Юзікам. Яшчэ ў настаўніцкай семінарыі Міхась актыўна ўдзельнічаў у грамадска-палітычным жыцці краіны. Ён разам з Язэпам Лёсікам браў удзел у падрыхтоўцы Усебеларускага з'езда, які адбыўся ў Мінску ў снежні 1917 года, і быў абраны яго дэлегатам. У родных мясцінах Міхась працягваў грамадскую дзейнасць. Па яго праекце былі закладзены гурткі «Таварыства прасветы», быў арганізаваны драматычны гурток, які ставіў п'есы «Паўлінка», «Пінская шляхта», п'есы Ф. Аляхновіча ды іншыя ў рэжысуры Міхася. Ды і ён сам любіў іграць галоўныя ролі, таксама даводзілася дамаўляцца з уладамі, вызначаць месца для спектакля.

Падзел Беларусі на многія гады прыпыніў былыя сувязі з сябрамі, сваякамі. Ад 1915 да 1939 года Якуб Колас ні разу не наведаў родныя мясціны. Перапісваліся браты таксама вельмі рэдка. У лісце да Уладзіміра Міцкевіча Міхась успамінае: *«Праз доўгі час, памятаю, было яшчэ ад яго пісьмо, у якім ён пісаў: "Чаго ты там сядзіш? Што цябе дзяржыць? Тут дзьверы шырока адчынены ўва ўсе вучэльні, а ты там у гразі корпаешся". На тое пісьмо я адпісаў: "Мяне тут нічога не дзяржыць, але ці даеш гарантыю што я застануся працаваць на якой-колечы рабоце на Беларусі?" На гэта адказаў: "Трэба зрабіць па прыказы: сем раз адмерась, пакуль раз адрэзаць". І стаў мерась. А я стаў чакаць. І гэтак чакаў некалькі гадоў, пакуль Чырвоная Армія заняла Заходнюю Беларусь».*

Увосень 1939 года Якуб Колас наведаў сваю родную вёску. Але прыехаў не адзін. Міхась пра гэтую сустрэчу пісаў: *«Разам зь ім увайшоў у хату незнаёмы чалавек, які ня пытаўся, ці можна ўвайсьці, ня лічыў патрэбным сказаць, хто ён і чаго ён прыехаў. Але Коласа так сьцярог, што нават спаць кладуся так блізка, каб галовы амаль стыкаліся. Тады яно неяк ня зразіла прыкрасьцю, бо лічылася за добрае, калі яшчэ не чапаюць у хаце, як прыкра падумаць цяпер, у адлеглым часе... Разумеецца, пры такіх абставінах не магло быць шчырых гутарак. І Колас, хоць звонку выглядаў тым самым братам, а з размовы — хтось іншы. Нейкая скрытнасьць, як бы заслона зьнячвала гутарку».*

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР Міхась зноў пайшоў працаваць у народную асвету, быў настаўнікам, дырэктарам школы, школьным інспектарам, клапаціўся пра забеспячэнне школы кніжкамі. Якуб Колас прыязджаў у Мікалаеўшчыну ўлетку 1940 года разам з малодшым сынам. Але спаткацца не давялося, бо Міхась быў у Навагрудку на перападрыхтоўчых курсах. Потым вайна перапыніла ўсякую сувязь паміж братамі — і ўжо назаўсёды. Міхась застаўся на пасадзе школьнага інспектара і ў часы нямецкай акупацыі. Клапаціўся, каб і ў гэтыя цяжкія часы дзеці вучыліся, каб захаваліся ад разбурэння родныя вёскі. У 1944 годзе Міхась прымае рашэнне пакінуць родныя мясціны. Пра неабходнасць гэтага сведчыць яго ліст ад 1 ліпеня 1944 года да дырэктара Мікалаеўскай школы Ігната Міцкевіча: *«Абставіны складіся так, што я пастараюся выехаць. Сякія-такія палітычныя ўчынкі зрабілі тое, што я, як і многія мае супрацоўнікі, шмат кім уважаюцца як "ворагі народу". Тое, што многія вёскі, у тым ліку і Мікалаеўшчына, абаронены ад спалення, нікім у рахубу ня возьмецца. Праўда, ня ўся работа падабалася і мне і ня ўсё было роблена з ахвотаю. У кожным разе, масы нашых людзей, асабліва моладзі, якія выехалі на Захад, у большасьці гэтак сама не з ахвотаю, як бы прамаўляюць за тое, што і мне там месца. Быў бы шчасьлівым тагды, калі-б на бацькаўшчыну вярнуўся астатнім. Вельмі б жадаў, каб фізічны габінэт і ўсе матэрыялы ў Інспектарыяце засталіся цэлымі. Аб гэтым прасіў суседзяў. Калі будзеце мець магчымасьць, дык парупіцеся, можа, і Вы. Гэта разумеецца, мне хочацца зусім не дзеля таго, што мне хочацца вярнуцца на старое становішча. Жадаю Вам усяго найлепшага. Як з выдачаю пасьведчаньняў вучням? Калі-б жадалі, можна-б выдаць».*

Пакінуўшы родныя мясціны, Міхась працаваў на машынабудаўнічым заводзе ў Судэтах, потым — на будоўлі каля горада Звітаў. У 1945 г. пераехаў у Рэгенсбург, дзе разам з іншымі беларусамі браў удзел у заснаванні беларускага лагера і гімназіі імя Янкі Купалы. Міхась Міцкевіч уваходзіў у ініцыятыўную групу настаўнікаў па стварэнні Беларускага настаўніцкага згуртавання на эміграцыі і па правядзенні арганізацыйнага з'езду беларускіх настаўнікаў амерыканскай зоны акупацыі Германіі. Ён працаваў школьным інспектарам Беларускага нацыянальнага камітэта, уваходзіў ва ўрад Беларускага настаўніцкага згуртавання. Пры гімназіі імя Янкі Купалы Міхась Міцкевіч працаваў дырэктарам пачатковай школы. У 1946/47 годзе пачатковую школу наведвалі 36 дзяцей, у 1948/49 — 37, у 1949/50 — 56. Ім падрыхтаваны і выдадзены ў скаўцкім выдавецтве «Крыніца» (Міхельсдорф, Розенгайм) чытанкі для дзяцей 1, 2 і 3 класаў пачатковай школы, «Роднае слова», геаграфічная чытанка ды іншыя дапаможныя матэрыялы, неабходныя для навучання. Вучоба ў гімназіі дазваляла атрымаць сярэднюю адукацыю тым, хто не паспеў скончыць школу. Але самае галоўнае, як адзначыў Ян Максімюк у кнізе «Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне», — *«вучні тае школы на ўсё сваё жыцьцё засталіся беларусамі незалежна ад таго, куды пасьля кінуў іх лёс, і засталіся таксама патрыётамі Бацькаўшчыны».* Сярод іх — Янка Запруднік, Зора і Вітаўт Кіпелі, Янка Жучка.

Міхась Міцкевіч браў актыўны ўдзел і ў арганізацыі рэлігійнага жыцця ў лагерах ДП. Ён уваходзіў у склад Вышэйшага царкоўнага праўлення Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) на Чужыне, ініцыятарам стварэння Брацтва Жыровіцкае Божае Маці.

У 1950 гады большасць беларусаў пакінула Германію ў сувязі з ліквідацыяй лагераў для перамешчаных асобаў. Значная колькасць беларускай эміграцыі падалася за акіян — у Злучаныя Штаты Амерыкі. У 1950 годзе пераехаў у ЗША і Міхась Міцкевіч.

Вольны ад працы час ён аддаваў грамадскай дзейнасці — быў намеснікам Галоўнай управы беларуска-амерыканскага задзіночання, старшынёй выдавецкага фонду «Беларус», некаторы час — рэдактарам газеты «Беларус» і часопіса «Голас Царквы». Пасля выхаду на пенсію Міхась доўгія гады працаваў задарма на карысць праваслаўнай парафіі ў Брукліне. У лісце да сястры Марыі ён пісаў: *«Ёсьць тут грамадка сваіх людзей, набылі агульны дом і ўладзілі царкву ў ім. Дык вось у доме і пры царкве, як догляд, так і розныя папраўкі ці ўладжаньні вымагаюць досыць шмат і клопату, і працы. Фізычна я яшчэ не аслаб зусім, а маладзейшыя заняты зарабковай працай, дык мне тут працы хапае».* Не толькі фізічна працаваў Міхась на карысць царквы. Ён падрыхтаваў Беларускі царкоўны каляндар і пераклаў на беларускую мову Напрастольнае і Паспалітае Евангелле.

Міхась Міцкевіч прысвяціў Якубу Коласу некалькі артыкулаў, якія з'яўляліся ў эміграцыйных выданнях, найбольш грунтоўны — «Кароткі ўспамін» — быў надрукаваны ў часопісе «Беларускі Сьвет».

Апошнія гады Міхась жыў разам са сваім пляменнікам Алесем Міцкевічам і яго сям'ёй. Алесь Міцкевіч вядомы на эміграцыі як выдавец і рэдактар «Вестак й Паведамленьняў Аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня». Дзякуючы Алесю сталася магчымым атрымаць некаторыя матэрыялы, якія прысвечаны жыццю малодшага брата Якуба Коласа, ды і ўбачыць яго. Было гэта ў верасні 1990 года, калі я прыляцела ў Амерыку на 19-ты Кангрэс беларусаў Паўночнай Амерыкі. Па дарозе ў Кліўленд я на кароткі час заехала ў Царкву Святога Кірылы Тураўскага, дзе на працягу многіх гадоў працаваў Міхась Міцкевіч, і ў маленькі прыгожы дом у Нью-Ёрку, дзе жылі сваякі. Дзядзька Міхась (так яго ў тым часе ўсе прывыклі называць) чуўся не вельмі добра. Памятаю яго словы: «Пэўна, у Коласа былі дзеці, пэўна, павінны быць і ўнукі». Гэта была наша першая і апошняя сустрэча. 25 кастрычніка 1991 года Міхась Міцкевіч адышоў у вечнасць і быў пахаваны ў Іст-Брансвіку (ЗША).

*«Хаця ён ніколі ня выпучваўся ў жыцьці й грамадскай дзейнасьці, амаль усе яго ведалі й паважалі,* — пісаў адзін з яго сяброў па эміграцыі, Міхась Тулейка, — *бо бачылі нясупынна дзейным чалавекам, які заўсёды імкнуўся штось рабіць для сваіх людзей і для беларускай нацыянальнай справы. На паказ ён ніколі нічога не рабіў. Усё рабіў на дабро, каб усё тое, да чаго ён меў дачыненьне, было добрым, чыстым, справядлівым і разумным».*

**Марыя МІЦКЕВІЧ**



Змітрок МАРОЗАЎ

## Цвыркун

*Не натужнае брыньканне струн*
*На пустой безгалосай эстрадзе, —*
*Зачароўвае сэрца цвыркун*
*У пакінутым бацькавым садзе.*

*Грай матыў свой, адвечны мастак!*
*Можа, у гэтым бязмоўным Сусвеце*
*Ты — мой самы апошні сваяк*
*На пакрыўджанай намі планеце.*

***

*Жніўны вечар прылёг на палі,*
*Маладзік над лугамі пасецца...*
*Цэлы дзень я пражыў на зямлі.*
*Цэлы дзень! Ён мне вечным здаецца!*
*Цэлы дзень, што завецца жыццём,*
*Непаўторны...*
*Ды я спадзяюся,*
*Што праз век гэтым жніўеньскім днём*
*Я ў нашчадку сваім адгукнуся.*

## Цень

*У пагодны летні дзень*
*Зорнай ноччу заўважаю*
*Побач цень, маўклівы цень...*
*«Хто ты? — я ў яго пытаю.*
*Што ты хочаш?» Спрыша*
*Ад сябе не праганяю...*
*Цень мой — родная душа,*
*Што мяне абараняе.*

***

*На гняздзе самотны бусел*
*Без буслíхі трэці год...*
*Я цябе згубіць баюся*
*Сярод тлуму і нягод.*
*Да цябе штодня хінуся*
*Шчырым сэрцам і душой,*
*Як вунь той самотны бусел —*
*Сімвал вернасці святой.*

## Душа

*Душа жадала птушкай стаць,*
*Каб цэлы свет абняць...*
*І стала!*
*Ды хтось каменны з п’едэстала*
*У птушку стрэліў...*
*І душы не стала!*

***

*На схіле дня зямнога веку*
*Выснову для сябе адкрыў:*
*Так мала трэба чалавеку, —*
*Каб толькі хтось яго любіў.*

***

*Дзіцячая слязінка,*
*Як першая сняжынка,*
*Шчаку мне апякла.*
*Не плач, мая дзяўчынка,*
*Унучка-залацінка,*
*Глянь — ружа зацвіла!*

***

*Нібыта недапісаны раман,*
*Гады і дні пражытыя гартаю...*
*Няўжо маё жыццё — самападман,*
*Якога я да скону не спазнаю?..*

***

*Жыццё людское: звады, мітусня*
*І за багацце — спрэчкі да крыві...*
*Больш не цвічу крылатага каня,*
*Адно малю: «Жыві, Пегас, жыві!»*

***

*Днём і ноччу, без сну,*
*Да апошняга ўздыху*
*Я ствараю адну —*
*Пажыццёвую — кнігу.*

***

*Шануйце кожную хвіліну,*
*Пражыты дзень, свой век і час,*
*І ясназорую жанчыну,*
*Якой не будзе больш у вас.*
*Шануйце тое, што даецца*
*Нам толькі Богам на зямлі,*
*Усё, што вам не давядзецца*
*Прайсці, дзе іншыя прайшлі.*

---

**Пераклады**

# ДА ІНШАЙ РАДЗІМЫ…

(Да стагоддзя з дня нараджэння класіка сербалужыцкай літаратуры)



Юрый ХЭЖКА

**(1917 — 1944)**

Яго радзіма — гэта ціхі ўзгорысты край, які адкрывае сваё горнае сэрца толькі ў гранітных разломах, што патанаюць у бяздоннях; гэта цудоўная даліна Ражэнча, на поўдні якой «горы злятаюцца як мухі на салодкі пірог», а на поўначы і захадзе яна пераходзіць у палі, бедна парослыя бярозамі і соснамі; гэта Лужыца — радзіма народных песень і загадак пра панну Марыю, што глядзіць з акна, і смагу, якая ідзе зялёнай сцежкай, радзіма падання пра добрага чараўніка Крабата.

Юрый Хэжка нарадзіўся 22 ліпеня 1917 года ў невялікім Лужыцкім паселішчы Горка, што паміж Будзішынам *(Bautzen)* і Камянцом *(Kamenz)*, у сям’і каменялома і калодзеніка Міклавша Хэжкі і дачкі шматдзетнага, малазямельнага селяніна Ханы Дзеленк, пазней вядомай усяму краю сказальніцы.

У 1929 годзе паступіў у васьмігадовы конвікт пры Пражскай архібіскупскай гімназіі, навучаўся ў пражскім Карлавым універсітэце на курсах багемістыкі і германістыкі, паралельна вывучаючы сарабістыку (да 1933 года ў Празе існавала першая ў свеце кафедра сарабістыкі). Улетку 1937 года Ю. Хэжка падрыхтаваў першы зборнік вершаў, які хацеў назваць «На шляху да іншай радзімы». Гэты невялікі сшытак, што дайшоў да нас з 23 тэкстамі, стаў ядром новай лужыцкай паэзіі.

Увосень 1938 года Юры падаў прашэнне аб прадастаўленні яму чэшскага грамадзянства, паколькі нават спадзявацца на вяртанне ў Лужыцу ў той час было ўжо немагчыма. Аднак разгледзець яго не паспелі: 15 сакавіка 1939 года фашысты акупавалі Чэхаславакію, а днём пазней быў заснаваны «Пратэктарат Багемii і Маравii». Незадоўга да Сёмухі пасля неаднаразовыхператрусаў і допытаў у гестапа Хэжка быў арыштаваны і заключаны ў Дрэздэнскую следчую турму.

9 кастрычніка 1939 года ён быў мабілізаваны ў войска.

У сярэдзіне кастрычніка 1944 года Юры Хэжка загінуў пры спробе далучыцца да югаслаўскіх партызанаў у раёне гарадоў Кральева, Крушэвац і Крагуевац.

**Кайрат БАКБЕРГЕНАЎ**

### *Пераклады з кнігі «Там, дзе Шпрэвя шуміць»*

(Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1969)

## Першы крок

*Уцякай жа, санлівасць,*
*З німфамі вечара, ночы.*
*Дзень настае,*
*дзень навальніц,*
*дзень гарачы і млосны,*
*З сонцам будзённасці,*
*яшчэ больш пякучым.*
*Хіба тут мне можна заснуць?*

*Ах, прыгожыя сны-летуценні,*
*як кроў маладая ў целе.*
*Бывайце, — кажу вам, —*
*гаркота будзённасці*
*вас ужо гоніць прэч.*

4.04.1937

**Пераклад А. Траяноўскага**

## Фантазія

*З узмежка, ускрай загона,*
*Убачыў я смерць у жыце:*
*Яна каласы няспелыя*
*Зразала касой бліскучай*
*І грозна-званліва жыхала:*
*Золінген, Золінген я!*

*Раз-пораз яна азіралася,*
*Як злодзей, — нідзе нікога.*
*Стагналі сцяблíны, просячы, —*
*Смерць толькі касу хваліла*
*І ўсё паўтарала мерна:*
*Золінген, Золінген, Круп.*

26.04.1937

**Пераклад Н. Гілевіча**

## Песня вандроўніка

*Я па жыцці хаджу-блукаю*
*і ў ясны дзень, і ў позні час,*
*у пустынях крушні абмінаю —*
*і някак напаткаў алмаз.*

*Яго разглядзець прыпыніўся —*
*блішчэў таемнай зіхатой;*
*я ў сонных далях заблудзіўся,*
*каменьчык авалодаў мной.*

*Падняў яго — і ўскрык пачуўся*
*з цямотнай будучыні ўраз:*
*«Ты не за тым, брат, пацягнуўся,*
*спакой шукай, а не алмаз!»*

*Спаткнуўся я. Мігценне зорак.*
*Боль згас у зацішы нямой.*
*Развеяўся агуслы морак.*
*Алмаз блішчыць перада мной.*

10.08.1936

## Ноч

*Ноч, грозных таямніц сяброўка*
*з вугальна-смольнымі валасамі,*
*у сукенцы жалобы,*
*у ёй мільёны*
*залатых камянёў*
*уладарыць над намі.*

*Адчуванне свабоды,*
*метэор скрозь цемру*
*працяў трывогі мае:*
*зноўку цямрэча, толькі няшчота*
*невядомая абдымае цябе,*
*немагчыма трываць — сэрца*
*павінна быць абароненым.*

*Аметыст светла-блакітны,*
*смутак, парослы*
*мохам даўняга забыцця,*
*ад шчасця ўшчасцем*
*залівае сухую самоту.*

28.03.1937

## Зялёная zet

*Без думак у душы эратычных,*
*у чараванні турбот*
*я табой любаваўся маўкліва,*
*літара Zet, усім, што за табой:*
*зеляніна сукенак бяроз маладзенькіх,*
*зеляніна водных глыбінь,*
*царкоўных званіц,*
*зеляніна ускрайкаў*
*ніколі не знанай красы.*

*У нябёсах прыгожа,*
*там зеляніна райская*
*вечна бруіцца,*
*ціха звініць: зялёная прыгажосць —*
*зялёная Zet.*

02.03.1937

## Калі?

*Сонца і месяц —*
*калаўрота колы,*
*што з крывавага кужалю,*
*ружы зары вечаровай,*
*нітку прадуць,*
*нітку часу і лёсу,*
*з бядотамі маімі,*
*калі вас пакіне Той,*
*хто наўкруг зямлі,*
*радзімы нашай,*
*восі калаўрота*
*бег спешны вядзе?*

*Асыпае чарамі песні,*
*жалеза, халоднае сэрца крышыць,*
*для прасушкі нітку нацягвае*
*на цвікі срэбныя,*
*якімі прыбіты дах небны.*

*Слухаю, гляджу, бачу і адчуваю,*
*удыхаю ў даліны самоту.*

27.03.1937

## Вішня

*Цвіценне вішні белапеннае*
*у зеляніне лістоты,*
*не спяшайся, часу дастаткова,*
*смерць шчасця не мае,*
*не мае часу.*

*Не будзе пладоў;*
*чаму твая маладосць*
*не зазірае далей святла,*
*прыбіраецца для магілы,*
*ты, чалавек — жывая крыніца?*

*Люстра крывое,*
*тут маладых столькі*
*зарана падалося на вечар*
*ад віны безабаронных,*
*якую ты маеш?*

05.05.1937

## Які сон лёгкі

*Які сон лёгкі,*
*калі лёс самотны народа сербскага*
*на сэрца табе кладзецца,*
*ніхто цябе не трывожыць.*

*Адзін я, адзін, зноў адзін,*
*а наўкруг, калі пагляджу,*
*усё пуста, аднак напоўнена*
*гэтым Нішто,*
*што кажа — сабе не веру,*
*якога бачыць — не магу,*
*што ў думкі сочыцца*
*так напорыста з цемры начной.*

06.09.1937

**Пераклад з верхнялужыцкай Міколы МЯТЛІЦКАГА**

# ЧАС І МЕСЦА

*Зрыфмаваная проза*

Георгій МАРЧУК



## ЛУЖОК
## (народная назва квартала ў Давыд-Гарадку)

Калі Эдзіта спявала ўсім пра Манжарок, ніхто ў свеце яшчэ не ведаў пра наш Лужок. Не прыжылося рускае слова, назвалі вуліцу імем Талстога. Хаты да Сешкі ў ланцужок. Гэта не Лёвы Талстога, гэта Лужок. Сцяпан-ветэран пасля чаркі-другой трывожыў вуліцы песняй сваёй. За тое, што тэхніку ЗША пахваліў, дзесяць гадоў сусед яго Канцуб у Карэліі лес валіў. Казалі, чакае ўсіх турма, калі станеш хаіць уладу. Ды меў незалежную думку сусед Фама, які будаваў дама. Так і жылі, Вэсна карміла, дзеці раслі. Сын Канцуба вырас у мастака, таленавітая ў сына рука. А сын таго, хто бушаваў, пісьменнікам стаў. Дзякуе табе, Лужок, бацька твой Гарадок, Сешка — старое русла Гарыні.

## СТАЛІЦА

Угаварыў Фядоса сусед пайсці хоць раз у жыцці ці ў оперу, ці на балет. Кажуць, на оперы «Мадам Батэрфляй» плачуць усе, слёз ніхто не хавае — так іх гэта мадам кранае каханнем сваім. Купіў ён квіток, каб бліжэй да сцэны. Хоць у жыцці ён быў сваволным, аднак у партэры вёў сябе прыстойна. У руках трымаў салфетку Фядос напагатове. З усімі плакаць ён быў гатовы. Пасля ўверцюры пайшлі артысты. Фядос прыглядзеўся: статныя фігуры. Мадам заспявала. І адразу суседка, што сядзела побач, насоўку да вачэй прыклала. Багата хто плакаў далей, нехта слёзы каўтаў, Фядос маўчаў і ўсё шкадаваў, што бутэльку піва не ўзяў. Сядзеў да канца і ўсё пазяхаў. Вось і фінал. Апладысменты. «Брава!» — крычаць, усім кампліменты. Фядос маўчыць. Ад гукаў аркестра галава трашчыць. Суседка, што першай слёзы пусціла, ад захаплення аж вішчыць. Прыплёўся дахаты Фядос злы і галодны. Суседа ён праклінаў і горка заплакаў, што грошы вялікія за квіток аддаў. Сусед жартаваў: «Гэта мадам сілу мае, не хлушу, так усхвалявала цябе, калі і пасля спектакля слёзы так душаць».

## ШТРАФ

Інспектар ДАІ з усяго атрада адзін умеў карову даіць, і не толькі гэта. Усю сялянскую працу ён умеў рабіць, паспела яго працавітая маці ўсяму навучыць. Гадаваўся без бацькі, адзін быў сын. Памерла маці, пакінуў ён вёску, паехаў у горад, як кажуць, адзін. Быў упарты. Не трэба было палкай падганяць за парты. Вучыўся. Свайго дабіўся, да лейтэнанта даслужыўся. Хадзілі чуткі, што быў надта ж строгі да тых, хто парушаў законы дарогі і правілы руху. Штрафаваў усіх, нікога не слухаў. Хабар не браў і знарок не караў. Сапсаваў ад нейкай драбязы начальнік яму настрой. Быў не ў гуморы наш герой. А тут якраз «мазда» ляціць, як напаказ. Паказаў радар перавышэнне хуткасці. Трэба прыпыніць і допыт учыніць. За рулём дзяўчына. Хударлявая, голас і рукі дрыжаць, не ведае, што даішніку адказаць. Першы раз за рулём, усяго баіцца. Бярэ правы наш герой і нетаропка чытае. Глядзіць дзяўчыне ў вочы, на рукі яе і яшчэ раз пытае:

— Ваша імя Марыя Дзмітрыеўна? Так?

— Так, — адказала дзяўчына.

Нешта ўскалыхнула душу паставога, прыляцела здалёку, з перажытага.

— Вы поўная цёзка маці маёй. І з твару падобна, блакітныя вочы.

Вярнуў ёй правы наш паставы.

— Будзьце ўважлівы. І дай вам Божа долі шчаслівай. Так колісь мама мая казала пяшчотна-шчымліва.

Падумаў пасля: «Можа, маці мне знак падае. Што ў родную вёску ўсё не даеду ніяк». А што? Відаць, гэта так. Гэта мамін знак. Штраф не адбыўся, на яго ён зусім і забыўся і быў таму рады. Такія ў душы здараюцца перапады.

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ

Дагнала Ніну, і не яе адну, запозненая ад Кастрычніцкай рэвалюцыі экспрапрыяцыя. Не хапае грошай беларускаму бюджэту, абвясцілі прымусова, хто не зрабіў раней, прыватызацыю. Для Ніны гэта быў удар у спіну. Так нечакана. У яе хворая маці-пенсіянерка, заробак у Доме культуры мізэрны, сям'і Бог не даў, хоць ты крычы аўрал. А хто пачуе? Кватэру ацанілі ў сто сорак мільёнаў, чатырнаццаць мільёнаў будзе першы ўзнос. Пакацілася ў Ніны жыццё пад адкос. Сваякоў няма. Калегі па працы маглі б трохі пазычыць, але, як і яна, галацьба адна. Ёй кажуць:

— На арэнду згаджайся.

За гэту арэнду ўсю зарплату і аддасі. Што рабіць? Міластыню каля царквы прасіць? Маці хворая плача. Кажа, прадзеда Саву яшчэ пры Польшчы такім макарам прагналі з дома, а потым і з Варшавы. А вось у Расіі прыватызаваць дама можна задарма.

— Ну, не пачалі дваццаць гадоў таму прыватызаваць, дык як бяднаце сёння дажываць? За што іх у даўгавую яму штурхаць?

— Ні на што мы, дачушка, з табой не годныя...

Маці ж сорак гадоў на маргарынавым заводзе рабіла. Яна ж гэтую кватэру заслужыла. Гэтыя два пакойчыкі — як у птушкі клетка. Кіраўнік у выканкаме раёна кажа: не вінаваты асабіста ён, для ўсіх адзін закон. Бярыце ў банку крэдыты, і ўсе будуць сыты: і банк за працэнты, і вы ў кватэры, і дзяржава. Дзесяць банкаў адмовіла Ніне ў крэдытах. Кажуць, малая ў вас на рабоце зарплата, шукай сабе, Ніна, палюбоўніка з алігархата. Не ела бедная Ніна і не спала, усё ратавання ад прыватызацыі шокавай шукала. Сяброўка яе, аднакласніца, выйсце ёй і падказала: напачатку заробіш на першы прыватызацыйны ўзнос. Чатырнаццаць мільёнаў, а потым будзе багаты пакос. Трэба ехаць у Еўропу. Вось гэта доларавае дзела. Там не толькі трэба мазгі, там бюргеры любяць прыгожае цела. І Ніна ўсё зразумела. Багата адзежы не пакавала ў чамаданы, узяла толькі ўсё неабходнае і падалася ў Еўропу ў путаны.



*Царква Казанскай іконы Божай Маці ў Давыд-Гарадку.*

## ЖЫЎ-БЫЎ КАМПАЗІТАР

У царкве Святога Фамы Бах-арганіст ратуе музыкай усіх ад хваробы, турмы і сумы. Слухайце Бога, каб была шчаслівай і годнай вашага жыцця дарога. Махляры, служкі падману, не пускалі Баха да аргану. Перакупілі месца арганіста для свайго з кодла аднаго. Забыліся яны на тое, што Сын Божы прагнаў гандляроў з храма. Запрасілі Баха. Сказалі прыхаджане: няхай ён іграе. І сёння вершы Лютэра на музыку Баха народ нямецкі спявае. Памёр Бах. Напаў на сям'ю яго жах. Як выжыць? Прадалі ўсяго трыццаць экзэмпляраў фуг яго. Прыгадаў я гісторыю гэту чаму? Паведаць каб пра сённяшнюю навіну. Выхваляецца часам і наш брат. Кажа: «Маіх твораў тыражы — як грыбы па восені: тысячы, дзясяткі тысяч забілі склады». Толькі штосьці не крычыць: «У магазін ты бяжы». Не купляе іх народ, што ты, браце, не кажы. Вось такі водаварот. Крыку многа, грошай многа і палацы ёсць, фанабэрыі замнога, пыхі ўдосталь, фанфаронства, пустазвонства. Ён нібыта на віду. Толькі талент не знайду. Кнігі іншых не чытае, што яго зайздрасць забірае.

## КАЛЕГІ

Бог даў аднаму кінарэжысёру багата гадоў жыцця, каб адцягнуць час яго забыцця. Ён фільмы здымаў пра вайну штогод і дастаткова меў для сябе ўзнагарод. Праўда, час ад часу гарэлка трохі замінала, каб была яшчэ большай яго слава. Працаваў побач з ім і дольшчык Іван. Ён для здымак клаў роўна рэльсы, на рэльсы ставіў цялежку з камерамі і апаратарам і далікатна каціў, калі аператар сваю камеру ва ўсе бакі круціў. Іван быў сваёй справы спецыяліст і ад яго залежала таксама, як будзе на экране выглядаць артыст. Рэжысёр Івана ніколі не заўважаў, Іван за гэта на рэжысёра не крыўдаваў. На прэм'еры ў кінатэатры Івана ніхто і не запрашаў. Іван з сябрамі ў піўной свае прэм'еры і святкаваў. Іван любіў піва і пра кіно без утайкі, пра артыстаў апавядаў ён свае байкі. Адышлі ў іншы свет сябры рэжысёра надта ж скора. Дажываў свой век адзін ганаровы горада грамадзянін. Ну, як дажываў… Нешта з успамінаў пісаў, трохі студэнтам выкладаў, а больш, прыгадваючы гады маладыя, ён сумаваў. Рэжысёр, як і Іван, быў піваман. Сустрэліся ў піўной, пазналі адзін аднаго.

— Іван? Гэта ты?

— Гэта я.

— Дык ты ж па кіно мне блізкая радня. Пішы мой тэлефон і звані штодня, — казаў рэжысёр і быў ён шчаслівы на дзіва, калі разам з Іванам піў піва.

Рэжысёр зразумеў, што яму для радасці ад жыцця бракавала: сябра па кіно дольшчыка Івана і не хапала. Яму захацелася крыкнуць зноў на ўвесь двор: «Увага! Матор!» Ах, гэта дзіўнае, чароўнае ў свет акно, роднае кіно.

## ДОМ ТВОРЧАСЦІ

Фядосу пашанцавала: дармавая пуцёўка ў прафкаме яго чакала ў дом адпачынку. Дом быў няпросты: пісьменнікі ў ім адпачывалі. Сярод соснаў, бярозак натхненне шукалі. «Можа, сярод бяроз знойдзеш і ты натхненне, Фядос, а раптам на вершы пацягне, а што — усё можа быць, калі перастанеш ты моцна піць».

— Ды я ж з іх нікога не знаю, — з трывогай Фядос уздыхае.

— Народны там будзе нават паэт.

Тут ачумеў Фядос аж да слёз. Купіў народнага паэта кніжку і два-тры вершы прачытаў. Адвык ад мовы. Было цяжкавата чытаць паэмы Дзяржаўнай прэміі лаўрэата. Узяў з сабой дачку ды пляшку каньячку. Да аднаго ішлі стала ў доме на абед: Фядос, дачка і наш паэт.

— Вучыся, дачушка, як трэба жыць.

Кожны да яго бяжыць, да неба нос ён задзірае, падобнай славы ніхто не мае. Як у сталоўку ён заходзіць, з яго вачэй ніхто не зводзіць. Бярэ нас зайздрасць, а чаму? Бо грошы й слава — усё яму. Няхай і нам падпіша кніжку на добры ўспамін. Люду простага тут многа, а народны ён адзін.

Час бяжыць. Сівеюць скроні, і гэты час ты не дагоніш. А трэба жыць. Фядос падаўся ў таргоўлю, пакінуў ён сваю будоўлю. Ён гандляр, бярэ на продаж толькі той тавар, які дае навар — жывы даляр. Ён дробны купчык, не купец. Час ад бегатні і адпачыць. Бярэ ён унучку і вязе туды, у дом славуты над ракою, дзе быў з дачкою. Былых слядоў няма. Інвестар новы, махляр стопудовы і публіка чужая.

— Бяры ты прыклад з алігарха, — Фядос унучцы ўнушае, — цяпер, што не кажы, даляр усё рашае. Ты што чытаеш?

— Кніжку, — унучка адказала.

— Якую? Бібліятэка ж тут ліквідавана.

— Знайшла ў кучы каля бані...

— Дай сюды.

— Вось, з аўтографам паэта кніжка гэта.

Фядос кніжэнцыю пазнаў. Даўным-даўно, калі будынак пакідаў, ён вершы народнага паэта з пакоя свайго і не забраў.

— І што, — пытае ён — цікава?

— Цікава, — унучка адказала.

— Кінь дурное. З кнігі гэтай не будзеш сыты, як баба ў казцы ля разбітага карыта.

— Тут ёсць аўтограф. Вось: «Цудоўнаму чалавеку, з якім сядзелі за адным сталом і цешылі сябе віном».

— Кажу табе сур'ёзна: кінь дурное. Урэмя прыйшло другое. Адна забава. Бяры ты прыклад з бізнесмена. Жыць будзеш ты як пава, — і кінуў кніжку ён у сметнік.

Пад вечар унучка неўпрыкмет забрала кніжку і ад дзеда схавала, бо спадабаўся ёй гэты паэт. Што тут дадаць? На веры, духоўнасці, дабрыні ды на любові трымаецца свет, аб чым і пісаў у сваіх кніжках паэт.

# НЕ ЎПІСВАЛАСЯ Ў ІДЭАЛАГІЧНЫЯ СХЕМЫ

Руская паэтэса Любоў Белкіна напрыканцы XIX ст. жыла ў мястэчку Пухавічы (праўда, пад іншым прозвішчам). Нарадзілася Любоў Міхайлаўна (дзявочае прозвішча Радзівонава, па першым мужы — Клячко) у 1875 г. у горадзе Нясвіжы, у сям'і прыстава. Вучылася ў Мінскай гімназіі, курс якой не скончыла па сямейных абставінах. З 16 гадоў жыла ўрокамі, зблізілася з рэвалюцыйнай моладдзю Мінска.

Удзельнічала ў фарміраванні шэрагу гурткоў, якія разам складалі мясцовую арганізацыю — Рабочую партыю палітычнага вызвалення Расіі. Узяла на сябе кіруючую, так бы мовіць, ролю. Наладзіла сувязі з рэвалюцыйнымі гурткамі Масквы, Кіева, Адэсы ды іншых гарадоў Расійскай імперыі. У 1900 г. праграма Рабочай партыі была выкладзена Белкінай (адрэдагавана Г. Гершуні) у брашуры «Свабода». Тады ж пераехала ў Пецярбург, была арыштавана і выслана ў Херсонскую губерню.

Але ж якая сувязь з Пухавічамі? У Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі, у вёсцы Блонь, захоўваюцца машынапісныя ўспаміны Анатоля Бонч-Асмалоўскага, рэвалюцыянера і гаспадара тутэйшага маёнтка ў перадрэвалюцыйныя дзесяцігоддзі. Бонч-Асмалоўскі расказвае пра мужа і жонку Клячко, якія, відаць, пераехалі ў Пухавічы ў 1893 г. Сямёна Клячко прызначылі загадчыкам аптэкі. Бонч-Асмалоўскія пазнаёмілі сям'ю Клячко з наведвальнікамі Блоні — С. Кавалікам, К. Брэшка-Брашкоўскай, Г. Гершуні. Не выключана, што ўсе гэтыя людзі бывалі не толькі ў Блоні, але і ў мястэчку. Блізкая дарога, заняткі з яўрэйскай моладдзю Любові Міхайлаўны — усё гэта не магло не прывесці ў Пухавічы і Каваліка, і «бабулю расійскай рэвалюцыі» Брэшка-Брашкоўскую (літаратара, публіцыста). Сямён Клячко браў удзел у перавозцы нелегальнай літаратуры з-за мяжы.

Дружба сям'і Клячко з Гершуні спярша магла быць абумоўлена і тым, што Грыгорый Андрэевіч быў фармацэўтам, меў у Мінску свой бактэрыялагічны кабінет. Знаёмства Гершуні з блонскай кампаніяй істотна паўплывала на радыкалізацыю яго поглядаў. І хутчэй за ўсё згаданая брашура «Свабода» пісалася Любоўю Клячко ў Пухавічах. Магчыма, тут яе і рэдагаваў Гершуні.

Са згаданых успамінаў Бонч-Асмалоўскага: «Увесну 1901 года пасля ўважлівага вобыску ў сябе ў маёнтку адпраўлены ў суправаджэнні жандармаў прама ў Пецярбург у дом папярэдняга заключэння, дзе я і праседзеў роўна год. Дапытвалі мяне больш усяго аб рэвалюцыйнай прапагандзе сярод блонскіх сялян. Наколькі гэта магчыма было — я адмаўляў. Доказаў было мала, і на працягу першага перыяду дазнанне прыходзіла да параўнальна добрага завяршэння. Настолькі, што нават жандармскі палкоўнік Мілер, які дапытваў мяне, абнадзеіў невялікім пакараннем. Але раптам восенню 1901 года гэты ж самы палкоўнік выклікаў мяне на допыт на Цвярскую вуліцу і, прамарынаваўшы гадзін шэсць без яды ў чаканні допыту, абвясціў аб узнікненні новай і вельмі сур'ёзнай справы. Пачынаецца допыт аб прапагандзе сярод яўрэйскіх рабочых мястэчка Пухавічы. На працягу гэтага допыту я чую гучную спрэчку ў суседнім пакоі паміж другім жандармскім афіцэрам і Любоўю Міхайлаўнай Клячко-Радзівонавай, — менавіта яна такой прапагандай і займалася. Яна была арыштавана яшчэ раней за мяне разам з маладым селянінам вёскі Блонь Максімам Лукашыкам па справе першай друкарні сацыялістаў-рэвалюцыянераў у Пецярбургу, распачатай і хутка праваленай. Што ж датычыцца прапаганды сярод пухавіцкіх рабочых, то Любоў Клячко аднойчы сапраўды ўгаварыла мяне пайсці да іх на сход, які праходзіў у найбліжэйшым ад майго саду ляску. Гэта было супраць маіх правілаў, бо я пазбягаў размаўляць, раздаваць нелегальныя брашуры тым рабочым і сялянам, якія ведалі мяне ў твар і па прозвішчы.

Любоў Міхайлаўна не мела цвёрдага характару. Будучы арыштаванай, яна паддалася ўплыву жандармаў і нагаварыла ім шмат лішняга. Яе паказанні былі галоўнай прычынай гэтай справы і наступнай маёй высылкі. У канцы расследавання мне прызначылі адміністрацыйную высылку спярша на сем, а пасля на пяць гадоў ва Усходнюю Сібір. Па гэтай справе быў арыштаваны мой старэйшы сын Іван Анатольевіч, і таксама па абвінавачванні ў прапагандзе сярод навакольных сялян яму прызначылі чатыры гады высылкі...»

Больш ва ўспамінах Бонч-Асмалоўскага пра Любоў Міхайлаўну няма ні слова.

Вядома, што ў 1901 — 1905 гг. рэвалюцыянерка жыла ў Адэсе. У 1906 г. выходзяць з друку зборнікі вершаў Любові Белкінай-Клячко «Песни революции» (Кіеў) і «На распутьи» (Масква).

У другім зборніку надрукавана яе сатырычная «Былина про Илью Мурамца и Салауя-разбойніка». Было і асобнае выданне гэтага твора — таксама ў 1906 г., у Маскве. У «Быліне...» у алегарычнай форме адлюстравана перамога над чыноўнікамі і панамі.

Нелегальна выйшлі вершаваны зборнік «Декабрьские дни» і паэма «Лейтенант Шмидт» (Казань, 1907). У зборніку «Лесная лилия» (Масква, 1910) суседнічалі інтымная лірыка і вершы на грамадскую, антырэлігійную тэмы, а таксама пераклады вершаў польскай паэткі Канапніцкай. Творы свае Любоў Белкіна (вядомая ў гісторыі беларускага рэвалюцыйнага руху ўсё ж як Клячко-Радзівонава) друкавала ў «Образовании», «Современном мире», «Русском богатстве». У 1912 г. працавала ў палтаўскім дабрачынным выдавецтве «Колос ржи».

У 1913 г. адрэдагавала некалькі нумароў палтаўскага часопіса «Труженик». Пасля 1917-га жыла ў Туле, супрацоўнічала з перыядычным друкам. У Туле ў 1925 г. пабачылі свет яе раман «Рольф Май» і паэма «Буревестник Дуарнена».

Памерла Любоў Міхайлаўна ў 1944 г. у Маскве. Успамінаў пра рэвалюцыйную барацьбу, на жаль, не пакінула. І вельмі шкада. Тое, што ўдалося расказаць пра Любоў Міхайлаўну, — усяго палова праўды. Не выклікае ніякіх сумненняў, што Анатоль Бонч-Асмалоўскі напісаў праўду. Але ж і ён не дапусціў ніякіх выказванняў на мяжы з абвінавачваннямі. Відаць, і сам разумеў, што патрэбны дакладныя сведчанні і дакументы. Да ўсяго астатняга, сапраўды, жандармскія следчыя маглі б выцягнуць патрэбныя ім паказанні падманным шляхам. Але цяпер я хацеў бы паразважаць крышачку пра іншае. У цянётах забвення Любоў Белкіна аказалася як таленавіты літаратар. Сучасніку, нават вельмі ўважліваму да мастацкай літаратуры пачатку XX ст., вядомыя адзінкавыя творы колішняй жыхаркі Пухавіч. А між тым Любоў Белкіна — таленавітая асоба. Вось і сведчанне таму — урывак з яе паэмы:

*Каждый дом был тюрьмой в эту пору,*
*Крепостями — громады домов,*
*Город спрятался в тёмную нору*
*И ворота замкнул на засов.*
*Мы постигли все ужасы ада,*
*Всю трагедию доли своей,*
*Десять дней и ночей канонада,*
*Кровь и смерть десять дней и ночей!*
*Обезумев, внимал обыватель*
*Перестрелке, тревожившей ночь,*
*И дрожал, и молчал, как предатель,*
*И не смел, не хотел им помочь.*
*Им, которые там одиноко*
*Вдоль угрюмых, как ночь, баррикад*
*Стяг борьбы водружают высоко*
*И под знаменем строятся в ряд,*
*Им, чьё сердце, за всех негодуя,*
*Жаждет мстить за невинную кровь,*
*Им, которые жизнь молодую*
*Отдают для спасенья рабов.*

Напісаны гэтыя радкі па гарачых слядах — у снежні 1905 — на пачатку 1906 г. — і прысвечаны падзеям Першай рускай рэвалюцыі, Снежаньскаму паўстанню 1905 г. у Маскве. Узгадайце, хто яшчэ менавіта ТАК апісаў першую рускую рэвалюцыю. Таму, відаць, і забыццё было ў гады савецкай улады, бо мастацкія вобразы і сімвалы Любові Белкінай не ўпісваліся ў існуючыя ідэалагічныя схемы. А пралетарскія паэты на фоне такой шчырасці, адкрытасці досыць часта выглядалі не лепшым чынам.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

*Імпрэзы*

# Пад сузор'ем Янкі Купалы

**Многія беларускія бібліятэкі носяць годнае імя Янкі Купалы — і на пачатку ліпеня збіраюць чытачоў на літаратурныя вечарыны. Юбілей народнага паэта адзначылі і ў Ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы.**



Фота Галіны Шыпіла.

Бібліятэкар Падлескай сельскай бібліятэкі Ларыса Глеб (у ролі маці) і Ягор Глеб (у ролі хлопчыка Янкі).



Арцём Бадак і Вольга Сакун прымералі вобразы маладога Купалы і Паўліны Мядзёлкі.

Свята «Пад сузор'ем Янкі Купалы» ў Ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэцы было прысвечана 70-годдзю «Купалаўкі» і 525-годдзю Ляхавічаў. Госці сустрэліся з 35-гадовым Янкам Купалам і яго каханай Паўлінай Мядзёлкай, якая стала прататыпам Паўлінкі. Лірычная драма па матывах кнігі Паўліны Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця» была прадстаўлена Арцёмам Бадаком, культарганізатарам гарадскога Дома культуры, і выкладчыцай аграрнага каледжа Вольгай Сакун.

Прафесійна была прадстаўлена інсцэнізацыя ўрыўка з п'есы «Шчасце паэта» Васіля Віткі. Ролю Дамініка Луцэвіча выконваў рэжысёр гарадскога Дома культуры Міхаіл Стрыжоў, у ролі яго сына, падлетка Яна, быў Ягор Глеб.

Наведнікі маглі набыць магніты-сувеніры, прысвечаныя 135-годдзю з дня нараджэння паэта. Лялькі-абярэгі, талісманы, зробленыя рукамі бібліятэкара Тамары Кандратчык, аказаліся запатрабаванымі і хутка раскупаліся.

У дзіцячай бібліятэцы быў арганізаваны забаўляльна-гульнявы куток, побач за гасцінным сталом наведнікі частаваліся гарачым чаем і пірагамі. Ветэраны працы бібліятэкі падзяліліся ўспамінамі.

Сярод чытачоў у красавіку гэтага года быў абвешчаны конкурс на лепшую прэзентацыю «Пясняр зямлі беларускай». Пераможцы атрымалі граматы, падарункі і віншаванні ад дырэктара кніжніцы Вольгі Пляшэвіч.

Вядучыя Наталля і Сяргей Багдановічы з нагоды юбілею ўзнагародзілі лепшых чытачоў у намінацыях «Ветэран чытання», «Сям'я, якая чытае», «Актыўны чытач серыі "Дэтэктыў"», «Пастаянны чытач камерцыйнага фонду», «Самыя частыя наведвальнікі бібліятэкі» ды інш.

Супрацоўнікі падрыхтавалі кніжную выстаўку «З фонду "Купалаўкі"», «дзе прадставілі выданні-«старажылы». Кнігі Янкі Купалы заўсёды займалі пачэснае месца на паліцах бібліятэкі.

**Марына НІКІЦІНА,**
**загадчыца аддзела абслугоўвання і інфармацыі Ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэкі імя Я. Купалы**

# МЯСТЭЧКІ ВЯЛІКАГА МАЙСТРА

**Бліскучы мастак Анатоль Каплан, хоць і пражыў усё свядомае жыццё ў Пецярбургу, нарадзіўся ў беларускім горадзе Рагачове. Успаміны дзяцінства, якія захавалі самыя дробныя дэталі местачковага побыту, натхнялі мастака цягам усяго жыцця. Літаратурна-мастацкая экспазіцыя «Краіна мястэчкаў Анатоля Каплана» адкрылася ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры 12 ліпеня. Сярод прадстаўленых мастацкіх работ — цыкл афортаў, прысвечаных роднаму гораду мастака.**



Анатоль Каплан «Козачка».

— Ёсць мастакі добрыя, ёсць — дрэнныя. Каплан — мастак вялікі. У мяне самая вялікая калекцыя работ Каплана: каля 100. 20 кніг і альбомаў я перадаў у дар рагачоўскаму музею. Яшчэ нядаўна замовіў яго бронзавую скульптуру, каб таксама падарыць Рагачову, — распавёў пецярбургскі калекцыянер Ісаак Кушнір.

Найбольшых поспехаў мастак дасягнуў у галіне літаграфіі, з'яўляючыся адным з вядучых майстроў гэтага віду мастацтваў 1960 — 1970-х. У аснове яго стылю — традыцыйнае яўрэйскае мастацтва. Каплан неаднаразова вяртаўся да дзіцячых успамінаў, натхняючыся яўрэйскай культурай ва ўсёй яе разнастайнасці.

— Творчы лёс Каплана, звязаны з нашай краінай, вельмі складаны. Жыццёвыя выпрабаванні, жыццёвыя радасці — усё гэта знайшло адлюстраванне ў творах мастака. Ён вельмі цікавы. Філасофія, роздум, мудрасць работ Каплана вельмі прываблівяюць. Калі б яны не былі прафесійныя, не было б такога вялікага пераліку музеяў свету, дзе знаходзяцца творы Каплана, — распавяла мастацтвазнаўца, крытык Ларыса Фінкельштэйн.

Работы А. Каплана знаходзяцца ў многіх музейных калекцыях свету, у тым ліку ў Дзяржаўным Рускім музеі, Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі, Дзяржаўным Эрмітажы, музеях Ватыкана ў Рыме, Нацыянальнай галерэі ў Вашынгтоне, Музеі сучаснага мастацтва ў Нью-Ёрку і, безумоўна, Музеі народнай славы ў Рагачове.



Анатоль Каплан «Перад вянцом».

— Гэтулькі работ Каплана я бачу ўпершыню, — прызнаўся на адкрыцці экспазіцыі Анатоль Бутэвіч, беларускі дзяржаўны дзеяч і пісьменнік. — Я заўсёды кажу, што Беларусь — гэта нацыя донараў. Раздалі вялікіх людзей усяму свету, а ўсе яны — выхадцы з Беларусі, як і Анатоль Каплан.

У экспазіцыі таксама прадстаўлены літаратурныя творы Змітрака Бядулі, Кузьмы Чорнага ды іншых пісьменнікаў, у творах якіх захаваўся той самы свет беларускага мястэчка.

**Ксенія ВЯДЗМЕДЗЬ**

*Чароўная Беларусь*

# ГАНАК

Хата стаяла так, што ад ганка за некалькі крокаў можна было трапіць у вялізны сад, які адным канцом выходзіў да поля, што пачыналася адразу за гаспадарчымі пабудовамі, а другім туліўся да прасторнага лугу. На самай мяжы ўзвышаліся вішнёвыя і слівовыя дрэвы.

Чамусьці мне здавалася, што наш ганак быў заўсёды цёплы, нават узімку. Снег, які задуваў сюды вецер, патроху тапіўся і знікаў, а кроплі ад яго сцякалі ўніз праз шчыліны ў дошках падлогі. А вось пад імі было таямнічае падполле. Узнікла яно таму, што ганак стаяў на высокім падмурку з камянёў, у якім чарнелі дзве адтуліны. Там было ўлюбёнае месца нашага сабакі.

Сходні з шырокіх дошак будаваліся разам з ганкам, але выглядалі намнога старэйшымі, бо ім болей даставалася ад дажджу, снегу і сонца. І таму яны з часам пачарнелі, патрэскаліся, вельмі гучна рыпелі і нават трошкі прагіналіся. Памятаю, як маці прасіла бацьку, каб падлажыў што пад дошкі ці прыбіў іх лепей, а то яны, як яна казала, «вельмі гаварлівымі сталі». Мо бацька нешта і рабіў, але дошкі прыступак і далей «размаўлялі» ці то з самім ганкам, ці то нават з тымі, хто на іх ступаў.

Самае цікавае на ганку адбывалася ўвечары. Што тут заўсёды ў канцы дня сядзелі бацькі — гэта адно. А вось калі прыходзіў дзядзька Уладзік… О, гэта было нешта незабыўнае, бо ад яго візітаў штосьці заставалася на ўсё жыццё. Вядома, дзядзька прыходзіў па нейкіх справах да дарослых, але перад тым, як зайсці ў хату, ён абавязкова сядаў на ганку і клікаў мяне, калі я быў у садзе ці бегаў недзе па двары. Ён садзіў мяне побач ці на калені, частаваў нейкім гасцінцам з кішэні і распавядаў чарговую гісторыю, якая здарылася з ім, калі ён сёння ішоў да нас. Усяго хапала: былі неверагодныя «байкі» і пра гарэзлівага чорта з невялічкага балота, і пра двух зайцоў, якія хацелі прымусіць дзядзьку для іх спяваць ці танцаваць, і пра вялізнага каршуна, які размаўляў чалавечым голасам і ведаў неверагодную колькасць розных гісторый, болей нават за самога дзядзьку.

Гэтая цікавая гаворка цягнулася і цягнулася, пакуль у хаце не запальвалася святло і бацькі не запрашалі госця на вячэру. Я бег з ім у хату, апранаўся цяплей і зноў вяртаўся на ганак, бо там, віляючы хвастом, чакаў мяне Туман. Ён ведаў, чаго мне хацелася меней за ўсё цяпер. Сабака станавіўся бокам ля самых сходняў, і я перакідваў нагу і сядаў на яго шырокую спіну. Так амаль кожны вечар Туман вазіў мяне па двары: ад ганка да калодзежа, уздоўж розных пабудоў, па крузе і назад. Лізнуўшы мяне на развітанне ў твар, Туман лез пад ганак, шумна варочаўся і заціхаў.



Калі дзверы ў хату былі адчыненыя, святло лілося з хаты на ганак, збягала па сходнях і гублялася каля плоту сада. На парозе збіраліся каты, чакаючы ад маці пачастунку — малака ў шырокую бляшанку. Было ўтульна і зацішна. Ганак, сабраўшы за дзень сонечнае цяпло, шчодра аддаваў яго цяпер і маёй спіне, і Туману пад падлогай, і катам, якія сядзелі нерухома, як статуэткі.

Я здымаў сандалі і скакаў па гэтых дошках, залітых святлом з хаты, па сходнях, якія цярпелі мяне, малога, і не рыпелі. А можа, і ім, і нашаму ганку было прыемна, што я яшчэ з імі і не хачу спаць, што яны разам са мной яшчэ ўбачаць, як з-за старога саду выкацілася бліскучы месяц і шчодра дадасць святла нашаму двару, нашай хаце, той дарозе, дзе было столькі цікавых прыгод, пра якія нядаўна баіў мне дзядзька Уладзік, і нашаму ганку на чатырох тоўстых слупах, які, мне здавалася, заўсёды быў цёплы.

**Уладзімір ЦВІРКА,**
**фота аўтара**

*Млын навін*

## Дзень вышыванкі — у дзіцячым садзе

Новыя формы для развіцця творчых здольнасцей укараняюць у Крупках. У прыватнасці, у дзіцячым садзе № 2 ладзяць дзень вышыванкі. Разам з бацькамі педагогі набылі для хлопчыкаў і дзяўчынак спартыўную форму з беларускім лагатыпам і нацыянальным арнаментам. Акрамя таго, ва ўстанове праводзяцца і розныя пазнавальныя мерапрыемствы. У планах — арганізаваць займальныя тэматычныя заняткі і маляўнічы фестываль, падчас якога выхаванцы садка змогуць больш даведацца пра традыцыі і звычаі беларусаў.

* * *

Выстаўка «Улетку да бабулі», якая адкрылася ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль», знаёміць наведвальнікаў з багатым і разнастайным народным касцюмам, характэрным для Гомельшчыны. «Бабуліны» гарнітуры маюць свой каларыт, сваю гармонію, адлюстроўваюць былое ўяўленне пра прыгажосць. Гэтыя народныя строі дазваляюць пабываць на вяселлі і хрэсьбінах, зазірнуць да шаптухі, паўдзельнічаць у летнім цыкле народных свят. Дарэчы, упершыню за амаль стагадовую гісторыю фарміравання этнаграфічная калекцыя музея будзе прадстаўлена так маштабна.

* * *

Шляхецкі маёнтак, які некалі належаў роду Багдановічаў, адраджаюць у Вілейскім раёне. З гэтым прозвішчам звязаны адразу некалькі пунктаў на карце: Стайкі, Мацькоўцы і Олькавічы. На жаль, у Мацькоўцах двухпавярховы палац не захаваўся. Застаўся толькі паравы млын, напаўразбураныя гаспадарчыя пабудовы і частка векавога парку. Затое ў Стайках цяпер актыўна рэстаўрыруюць бровар XX стагоддзя, які ацалеў да нашых дзён. Дарэчы, у ім захаваўся велізарны металічны чан для прыгатавання напояў. У хуткім часе былы маёнтак ператворыцца ў канцэртна-выставачную залу.

* * *

Эколага-адукацыйны візіт-цэнтр адкрыўся ў заказніку «Азёры» Гродзенскага раёна. Навучэнцы школ і гімназій, студэнты ВНУ ды іншыя зацікаўленыя наведвальнікі змогуць узбагаціць экалагічныя веды. У візіт-цэнтры можна атрымаць інфармацыю пра прыродныя тэрыторыі нашай краіны, якія ахоўваюцца асаблівым чынам, пра ўнікальныя прыродныя комплексы і біяразнастайнасць заказніка «Азёры», прыгажосць прыроды Гродзенскага рэгіёна.

# ІМПУЛЬС ДЛЯ ГЛЕДАЧА

## Тэмы, што выбіраюць мастакі



*Таццяна Малышава «Святочныя вазы», 1979 г.*

У межах беларускай арт-прасторы ў апошнія гады адбываюцца адметныя падзеі. Па-першае, у краіне ладзяцца разнастайныя канцэптуальныя выставачныя праекты (іх значна больш, чым было яшчэ тры гады таму). А гэта значыць, што народ мае магчымасць не толькі чуць пра мастакоў, але і бачыць іх творчасць, аналізаваць яе. Па-другое, творцы не толькі выстаўляюцца, але і выхоўваюць густ гледача, прапануючы для разваг шмат актуальных тэм. У сучасным грамадстве мастацтва з'яўляецца імпульсам да развіцця не толькі культуры, але і чалавека ў цэлым: глядач больш не ўспрымае мастацкі твор як прадмет інтэр'еру, а спрабуе даведацца яго гісторыю, зразумець аўтарскую думку. Адзін з мастацкіх трэндаў нашага часу — арганізоўваць на адной пляцоўцы выстаўкі розных мастакоў, каб адразу была магчымасць параўноўваць і выбіраць, што больш па душы. У Палацы мастацтваў зноў прадставілі праект, які складаецца з асобных выстаў трох мастакоў. У ім узялі ўдзел аўтары Таццяна Малышава, Уладзімір Гладкоў і Ларыса Журавовіч. Кожны з творцаў сёлета святкуе юбілей.

### РУХ У ШКЛЕ І ГРАФІЦЫ

Таццяна Малышава прадстаўляе выстаўку мастацкага шкла і графічных кампазіцый «*Impression*». Аўтар зачароўвае ўменнем сумяшчаць розныя колеры і адценні. А гэта можна лічыць адным са складнікаў поспеху ў сучасным мастацтве. Шкляныя вырабы Таццяны Малышавай — вялікія кампазіцыі, праз якія яна не проста адлюстроўвае тэму, а выбудоўвае своеасаблівы нацюрморт з асобных элементаў, разыгрывае ідэю мікра- і макрасвету, выкарыстоўваючы кантраст вялікіх шкляных формаў і зусім маленькіх «атамаў». Любімы выставачны прыём аўтара — размясціць экспазіцыю на люстраной плоскасці, як бы адарваць ад матэрыяльнай паверхні, дадаткова адлюстраваць для ўзмацнення дэкаратыўнага эфекту.

Графічныя творы мастачкі, прадстаўленыя ў экспазіцыі, — вынік сумеснай працы з Музеем прыроды, падчас якой аўтар змагла добра вывучыць свет раслін, птушак, казурак, каштоўных камянёў і знайсці сваю тэхніку выканання — рамантычную і лірычную. Створаныя мастачкай вобразы выклікаюць багатыя гукавыя асацыяцыі за кошт перацякання колеру, «музычных» рытмаў, празрыстасці.

На пачатку творчага шляху Таццяна Малышава была закаханая ў шкло, з графікай пачала працаваць значна пазней. Але сёння мастачка задаволеная, што можа сумяшчаць кірункі.

— Больш за трынаццаць гадоў я адпрацавала на шклозаводзе «Нёман», — расказвае Таццяна Малышава. — Прыехала туды ўпершыню на другім курсе на практыку, убачыла, якія на заводзе ствараюць кампазіцыі са шкла, якія там працуюць унікальныя мастакі, і загарэлася. Я была першай выпускніцай Тэатральна-мастацкага ўніверсітэта, якую ўзялі на завод. Разам са мной у Бярозаўку прыехаў мой муж. Ён быў інжынерам па метале, з ім мы прыдумалі ўнікальную фальгу, каэфіцыент пашырэння якой адпавядаў шклу. Менавіта гэтую фальгу я стала выкарыстоўваць у мастацкіх творах, і ў нас атрымаўся творчы тандэм. Прайшлі гады, і іводная мая работа, якая была закуплена музеямі, не патрэскалася. На заводзе мне хацелася ўкараняць новыя ідэі, знаходзіць арыгінальныя падыходы, але кіраўніцтва наватарства не прымала. Ім падабалася тое, што я рабіла, але баяліся, што новыя прадукты не змогуць стаць папулярнымі. І ў выніку завод перайшоў на вытворчасць шклаваты. Таму я сышла адтуль і вярнулася ў Мінск. А паколькі ў Мінску шкларобства не развітое, пачала займацца графікай. І стала цікава. Бо на заводзе я выконвала даручэнні, а тут — сама сабе рэжысёр: сама прыдумляю эскіз, дэталі вобраза. Графіка мне заўсёды грэла душу. Памятаю, як днём любіла ехаць у электрычцы і маляваць эскізы нашых беларускіх знакавых аб'ектаў. Так атрымалася, што шмат маіх творчых задум нарадзілася ў руху. Калі пачала займацца графікай прафесійна, стала выкарыстоўваць тэхніку манатыпіі, у якой выкарыстоўваецца туш і акварэль. Доўгі час маю графіку не прымалі, лічылі занадта вычварнай, але час усё расставіў па месцах, і творы пачалі нават купляць. Цяпер я спыніла выбар на сумяшчэнні шкла і графікі. На мой погляд, гэтыя напрамкі дапаўняюць адзін аднаго. Ёсць заканамернасць: бывае, рэалізую ідэю ў шкле, а потым працягваю яе развіваць у графіцы.

### УСХОДНІ КАЛАРЫТ

Паэтычныя палотны Уладзіміра Гладкова чапляюць пяшчотай і дабрынёй. Паколькі творчае станаўленне жывапісца адбывалася на зямлі Узбекістана, то ў аснове экспазіцыі мы можам убачыць краявіды багатага на гісторыю рэгёна. Традыцыі еўрапейскай і беларускай мастацкіх школ, заснаваных на акадэмічных прынцыпах у малюнку і жывапісе, аўтар арганічна спалучае з філасофскімі абагульненнямі і знакавасцю, а таксама з непаўторным усходнім каларытам.



*Уладзімір Гладкоў «Аральскія рыбакі ў суровыя гады», 1984 г.*

Уладзімір Гладкоў адмаўляецца распавядаць пра сваю творчасць. Адзначае, што глядач альбо зразумее сам, альбо проста адмовіцца ад прагляду экспазіцыі. Ён мастак душы, таму сюжэты і вобразы яго твораў невыпадковыя: аўтар адлюстроўвае сімвалічныя моманты, адкрывае трапяткую прыгажосць і паэзію, гарманічную ўпарадкаванасць свету. Маніпулюючы мяккім каларытам, дасягае канкрэтнасці і дакладнай апрацоўцы дэталяў. З дапамогай святла і паветра, паслядоўнага чаргавання архітэктурных элементаў, абрысаў гор, люстраной роўнядзі вады стварае магутныя прасторавыя рытмы, эпічную музыку настрою.

Сярод твораў мастака прадстаўлена шмат партрэтаў, у якіх задачай для аўтара, акрамя пераканаўчай перадачы вонкавага падабенства мадэлі, з'яўляецца адлюстраванне духоўнай сілы і прыгажосці чалавека. Уладзімір Гладкоў па-сапраўднаму любіць сваіх герояў, таму падчас працэсу тонка падкрэслівае кожную дэталь, эмоцыю. Вочы яго герояў жывыя, у іх заўважаеш важныя, цёплыя думкі. Непасрэдныя і шчырыя вобразы людзей узбагацілі аўтара змястоўнымі і пластычнымі ідэямі, сталі крыніцай для натхнення і эмацыйных уражанняў.

### ВЁСЦЫ ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

Праекты мастачкі Ларысы Журавовіч атрымалі вядомасць па ўсёй краіне. Яе апошні перасоўны арт-праект «Пра творчасць, каханне і самую звычайную глыбінку» стаў нават не папулярным, а запатрабаваным у розных кутках Беларусі. Ён пачаўся персанальный выстаўкай работ у Бялынічах, на радзіме мастачкі, вядомай прыхільнасцю рэалістычных традыцый. Арт-праект ахапіў практычна ўсе раёны Магілёўскай вобласці. Прадстаўленая ў Палацы мастацтваў выстаўка стане завяршальнай кропкай праекта.

— Ідэя нарадзілася пасля маёй выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі. Тады я зразумела, што творы, прысвечаныя беларускім вёскам, бачаць у асноўным сталічныя гледачы і турысты, якія не заўсёды да канца ведаюць, пра што ідзе гаворка, — адзначае Ларыса Журавовіч. — Таму было вырашана праект зрабіць перасоўным, паказаць яго тым, каму ён блізкі, хто прадстаўлены на палотнах. І рэакцыя, паверце, была цікавая: гледачы расказвалі, з чым згодныя, а што жадалі б паправіць. Мы зрабілі дзевятнаццаць выставак ва ўсіх раёнах Магілёўскай вобласці. Калі ў горадзе межаў няма, то вёска — асобны свет, маленькі кавалачак зямлі з асаблівай культурай, традыцыямі, звычкамі. Ёсць сацыяльныя плюсы і мінусы, але справа ў атмасфернасці, любові да гэтых месцаў. Там жывуць людзі з асаблівым менталітэтам. Яны не так распешчаны выгодамі цывілізацыі і ведаюць, што такое праца. Менавіта такія людзі могуць расказаць нашаму грамадству гісторыю, якую берагуць у сваіх дамах. У творах я паказваю ўсё лепшае, што ёсць у вясковым свеце. Бо вёска адчуваецца не толькі, калі паехаў на вакацыі да бабулі або правёў выхадныя з шашлыкамі. Гэта асаблівая гарманічная прастора, якая, на жаль, хутка знікае. Гэта непрыкметна на адлегласці, дзе-небудзь у вялікім горадзе, але ўнутры вясковага побыту ідзе настолькі хуткі працэс, што хочацца захаваць вясковы ўклад хоць бы праз творчасць. Мне б хацелася, каб глядач пераацаніў стаўленне да вёскі, павагу да яе.

Разумець жыццё ў вёсцы можна па-рознаму, але ж мастачка акцэнтуе ўвагу менавіта на адраджэнні павагі да народнага побыту, традыцыйнай народнай культуры, працы на зямлі. Яна не шукае навізны, наадварот — захапляецца простымі і блізкімі рэчамі. Мастачка ўпэўнена, што людзі, якія не ведаюць вясковага жыцця, не адчуваюць у поўнай меры свабоды, чыстага паветра, не могуць да канца разумець шчасце. Таму для яе важна пераносіць сваю любоў да вёскі на палотны.

Цяпер аўтар працуе над рэалізацыяй новага праекта, які таксама будзе «падарожнічаць» па краіне. Пакуль да канца невядома, што стане яго тэмай, але мастачка абяцае зноў звярнуцца да актуальных праблем краіны. Яшчэ адна мэта Ларысы Журавовіч — развіць рэалістычны кірунак мастацтва. Нягледзячы на стэрэатып, што рэалізм страціў свае пазіцыі, мастачка ўпэўнена: яго класічныя традыцыі не згубяцца і заўсёды будуць ацэненыя аматарамі мастацтва.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Ларыса Журавовіч «Тубушкі. Адпачынак», 2014 г.*

# АКЦЭНТ — НА ЧАЛАВЕКА

## Купалаўскі запрашае на гарбату з каралевай



Фота з архіва Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Дзіяна Камінская і Іван Кушнярук увасобілі Каралеву Англіі і Морыса Ходжэра ў маладосці.

**Дзевяноста сёмы тэатральны сезон Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы завяршыла пастаноўка Аляксандра Гарцуева «Юбілей ювеліра». Тут два акцёрскія склады: галоўныя ролі выконваюць мэтры Купалаўскага тэатра Георгій Маляўскі і Наталля Качаткова, Аляксандр Падабед і Тамара Міронава. «Меладрама элегантнага ўзросту ў 2 дзеях» — менавіта так вызначаюць жанр пастаноўкі яе стваральнікі. Перад тым, як аднесці «Юбілей ювеліра» да сферы цікавасці «дарослай» аўдыторыі, спыніцеся: спектакль ПРА людзей сталага ўзросту, але не толькі ДЛЯ іх.**

Кажуць, п'есу «Юбілей Морыса» — літаратурную аснову спектакля, напісаную ў 2012 годзе актрысай Ніколай МакОліф, — чытала сама Лізавета Другая. Натуральна, калі ўся дзея разгортваецца вакол такой тытулаванай асобы, цяжка застацца незаўважаным. Рэцэпт папулярнасці надзейны: прысвяціце твор каралеве напярэдадні юбілею яе каранацыі, і ўвага чытачоў забяспечана. Асоба каралевы ўжо даўно стала культавай для брытанскіх падданых, але зацікавіць нашага гледача так проста не атрымаецца.

Беларуская версія «Юбілею Морыса» таксама пераносіць наведнікаў у Англію, але пра туманны альбіён тут нагадваюць толькі дэкарацыі ды джэнтльменская выпраўка Морыса Ходжэра ў выкананні Георгія Маляўскага. Хэлена (Наталля Качаткова), наадварот, — роднасны славянскім жанчынам персанаж. Клапатлівая, простая, амаль недалёкая (на першы погляд ці насамрэч?), адданая сям'і жонка і маці. Чаго толькі варты яе камічны рэверанс перад «каралевай»! Яна можа праспяваць песеньку з рэкламы, схадзіць у супермаркет па прадукты на акцыі і дагледзець хворага мужа не горш за прафесійную сядзелку. Побач з такой жанчынай можна лёгка пражыць шэсцьдзясят год запар, але ці здолее рамантычны і летуценны мужчына застацца закаханым у сваю Хэлену? Былы ювелір Морыс Ходжэр абірае іншую пасію, і гэта — Лізавета Другая. Выключна англійская мара — чакаць шэсцьдзясят год, каб выпіць кубачак гарбаты з Яе Вялікасцю Каралевай Англіі ў сваё 90-годдзе.

Здавалася б, вось і інтрыга — прыйдзе ці не прыйдзе каралева на свята Морыса? Але гэта брытанскаму гледачу важна, каб Яе Вялікасць звярнула ўвагу на простага ювеліра. Інтрыга, якая здолее сапраўды «зачапіць» беларуса, павінна быць куды больш глыбокай і складанай. Даруе ці не даруе Хэлена мужу на смяротным ложку закаханасць у іншую жанчыну? Зразумее ці не зразумее Морыс вартасць жонкі? Такія пытанні ўзнікаюць падчас развіцця сцэнічнага дзеяння ў Купалаўскім. Блізкія людзі часам застаюцца самымі недаследаванымі, бо звыклыя межы побытавых зносін хаваюць іх унутранае жыццё. За столькі год побач юнацкая палкасць засталася далёка ў мінулым, альбо… раптам не засталася? Цела ўжо не можа любіць фізічна, а ў душы жывуць несастарэлыя рэўнасць і закаханасць, пяшчота і крыўда. Пагадзіцеся, гісторыя Морыса і Хэлены Ходжэраў зацікавіць гледачоў любога ўзросту.

У рэшце рэшт, спектакль распавядае пра дараванне і каханне незалежна ад жыццёвага досведу аўдыторыі. Сэрца Хэлены увесь час належала толькі мужу. Верная, надзейная, заўсёды побач, яна — увасабленне рэальнага, жыццёвага кахання. Пачуцці Морыса да каралевы летуценныя і амаль што ўяўныя, але ж такое каханне — каханне мары — дапамагло яму стварыць брыльянтавае калье неверагоднай прыгажосці, самы значны ювелірны аб'ект за ўвесь час працы. Два розныя пачуцці, нават калі і параўноўваюцца на сцэне, не прыніжаюць вартасці адно аднаго, а гарманічна суіснуюць побач, як і галоўныя героі. Трэцяя дзеючая асоба, сядзелка Кэці ў выкананні Зоі Белахвосцік, з'яўляецца ў спектаклі як рухавік сюжэта. Адкуль яна прыйшла, што бачыла ў жыцці, застаецца загадкай. Гісторыя Кэці там ці тут узнікае на паверхні асноўнага дзеяння праз невялікія заўвагі персанажаў, але толькі дзеля таго, каб зрабіць сям'ю Ходжэраў больш рэалістычнай.

Цікава, што ў арыгінальнай п'есе Морыс дачакаўся ў госці Каралеву Англіі. Беларускі пастаноўшчык перапрацаваў гэты момант, і размова з Лізаветай Другой, якая ў брытанскім варыянце насамрэч адбываецца, у нашым спектаклі пераносіцца ў сон Морыса. Развітальныя словы каралевы ніколі не гучалі ў рэчаіснасці. Не яна папракае старога ювеліра за тое, што ён прысвяціў працу свайго жыцця амаль незнаёмай жанчыне (нават калі гадзіны былога знаёмства засталіся чароўным успамінам пра чыстае каханне), а яго ўласны сон. І калі дыялог з каралевай адбыўся ў падсвядомасці Морыса, мабыць, калье, што трапіла ў рукі «каралевы яго сэрца», адышло да Хэлены не выпадкова, а знайшло свайго законнага ўладальніка.

Абодва героі п'есы, здаецца, у фінале знаходзяць шчасце: Хэлена — у няведанні таго, што дзівоснай прыгажосці брыльянтавае ўпрыгожанне муж хацеў падараваць не ёй, Морыс — у вяртанні да лепшага моманту мінуўшчыны, летуценняў аб каралеве. Шчаслівыя, але паасобку, бо інакш немагчыма: фінал цалкам жыццёвы і крыху трагічны. Напэўна, каб удала перанесці выключна англійскую гісторыю на беларускую глебу, трэба зрабіць акцэнт на агульначалавечых праблемах.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# КАЛІ ЖАНІХОЎ ЗАШМАТ

**Пад канец сезона ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры паставілі сатырычную аперэту «Жаніхі». Гэтым разам быў абраны твор, які не ішоў на сцэне некалькі дзясяткаў гадоў. Музыку яшчэ ў другой палове 1920-х напісаў Ісаак Дунаеўскі. Гэта адна з ранніх тэатральных работ кампазітара. У 1962 годзе яна была экранізавана на Ленінградскім тэлебачанні ў фільме «Жаніхі і Нажы».**

Як распавёў дырыжор-пастаноўшчык Юрый Галяс, музыкі кампазітар напісаў так шмат, што яе хапіла б на тры паўнавартасныя акты. Але ў беларускай пастаноўцы было вырашана зрабіць два дзеянні. Хормайстар-пастаноўшчык Святлана Пятрова адзначыла: «Мабыць, гэта самая мудрагелістая пастаноўка ў бягучым рэпертуары, таму што мы не дапусцілі ніводнага штампа». Нехта нават зможа адкрыць для сябе музыку Дунаеўскага наноў, без прывязкі да вядомых усім песень з кінафільмаў.

За апошнія гады на постсавецкай прасторы гэта другая пастаноўка аперэты: у маі 2014 года да твора звярнуўся Санкт-Пецярбургскі дзяржаўны тэатр музычнай камедыі. Аднак паміж дзвюма версіямі ёсць істотнае адрозненне: у Расіі ідзе спрадвечна гістарычны варыянт, які апавядае пра часы НЭПа, — ён максімальна набліжаны да арыгінала. У Беларусі ж сюжэт асучаснілі, перайменавалі персанажаў у духу апавядання і галоўную гераіню — удаву — зрабілі стройнай прыгажуняй.

Аўтары арыгінальнага лібрэта — Мікалай Адуеў і Сяргей Антымонаў. На сучасны лад адаптаваць тэкст дапамог Аляксандр Зотаў, беларускі журналіст і паэт-песеннік. Ён ужо супрацоўнічаў з тэатрам падчас стварэння музычнай камедыі «Вяселле ў Малінаўцы».

У новай пастаноўцы ўсё круціцца таксама вакол вяселля. Усе пяцёра жаніхоў — канкурэнты ў барацьбе за руку новаспечанай удавы ўладальніка фешэнебельнага рэстарана Кукуева. Кожны з залётнікаў добры па-свойму: малады безініцыятыўны шэф-повар рэстарана «Алімп» Чарпакоў, прадпрымальны і настойлівы гаспадар агенцтва рытуальных паслуг «Век жывы» Замагільны, паўнацэлы грузін-таксіст Вачнадзэ, хітры загадчык більярднай пры рэстаране Лузер і каларытны паслушнік Басаў. Мужчынам патрэбна не столькі ўдава, колькі яе спадчына. Дзеля гэтага яны гатовыя ісці практычна на любыя хітрыкі, падстаўляючы адзін аднаго. Але ў канчатковым выніку няўдалыя абраннікі разбягаюцца самі («Хто ж гэта без рэстарана ажэніцца? На адным меню...»), калі раптам «з таго свету» вяртаецца Кукуеў уласнай персонай…



Фота Марыі Калядзі.

Сцэна са спектакля «Жаніхі».

Гледачоў, якія чакаюць відовішчнасці, можа ўразіць сцэна масавай бойкі (як кажуць, якое ж вяселле без бойкі?). Рэжысёр-пастаноўшчык заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Міхаіл Кавальчук сумесна з акцёрам і рэжысёрам Віталём Катавіцкім здолеў выбудаваць гэты момант так, што ў гледача можа з'явіцца ўражанне, што ён сядзіць у кіназале і глядзіць на малюнак у «*slow mo*» — настолькі рэалістычна пабудавана сцэна.

У апавяданне арганічна ўплецены нумар артыстаў балета аперэты і мюзікла: пяцёра афіцыянтаў з падносамі і муляжамі бутэлек на іх ліха танчаць падчас застолля, чым зрываюць апладысменты. Акрамя саміх маладых артыстаў, над гэтым нумарам, а таксама іншымі танцавальнымі сцэнамі папрацавала харэограф-пастаноўшчык Наталля Масквічова (Екацерынбург, Расія), якая адзначыла, што была пастаўлена цікавая задача — разбавіць харэаграфію акрабатычнымі элементамі. Па волі харэографа Мар'яну Кукуеву раз-пораз уздымаюць у паветра то ў адной, то ў іншай падтрымцы. Са слоў выканаўцы галоўнай жаночай ролі Наталлі Дзяменцьевай, самым складаным для яе аказаўся ўздым на чатырох більярдных кіях, падчас якога неабходна спяваць. «Роля Мар'яны Юр'еўны вельмі цікавая, — дзеліцца ўражаннямі прыма Маргарыта Александровіч. — У гераіні спалучаюцца і какецтва, і доля сціпласці і нават капрызнасць».

Гратэскнасць дзеяння падкрэсліваюць грым, касцюмы і дэкарацыі, прапанаваныя мастакамі Андрэем Меранковым і Марыяй Герасімовіч. У прыватнасці, гіганцкая лялька-нявеста з сур'ёзным тварам спускаецца цягам спектакля з-пад столі: насамрэч не ўсё так радасна для нявесты і жартаваць ёй тут не да месца. Таксама нельга забыць і пра труны — більярдныя сталы: хтосьці ўспрымае смерць як гульню і падставу, каб пакпіць, а хтосьці — як трагедыю. Нельга абмінуць эпізод у выкананні жывой легенды Наталлі Гайды. Яе гераіня загадзя самастойна купляе сабе труну. Яна звярнулася ў агенцтва «Век жывы» з думкай стаць яго кліенткай. Выхад на сцэну гэтай артысткі асабліва радуе гледача, які добра ведае гісторыю музычнага тэатра Беларусі. Папоўніць яе новай пастаноўкай сатырычнага характару імкнуліся стваральнікі аперэты «Жаніхі». Моладзі, напэўна, спадабаецца, але заўзятыя тэатралы, магчыма, убачаць тут карыкатуру, у тым ліку на людзей у пэўных абставінах.

**Шура ГРАМЫКА**

# Праекцыя душы

## Частка VI: Лічбавыя вымярэнні беларускай анімацыі

**Эстэтыка анімацыі сёння перажывае складаны пераходны перыяд, звязаны са зменай свядомасці, светапогляду. Уплыў камп'ютарнай эпохі дае ўсвядоміць бязмежныя магчымасці анімацыі ў паказе розных часоў, у тым ліку будучыні; ідэальна-духоўных структур, міфалагічных і рэлігійных прастор і часу; мадэляў розных культурных інстытутаў — віртуальных музеяў, тэатраў, энцыклапедый і г. д. з выхадам за межы трохмернай рэальнасці ў новыя вымярэнні. Гэтыя пытанні стаяць і перад беларускім анімацыйным кіно.**

### АД АЗБУКІ ДА ЗОРАК

Наогул, за гады існавання анімацыйнай студыі «Беларусьфільма» было знята больш за 180 фільмаў для дзіцячай і дарослай аўдыторыі. Можна адзначыць, што беларуская анімацыя цалкам сфарміравалася як галіна экраннага мастацтва, але пакуль не стала часткай сучаснай нацыянальнай культуры ва ўзаемадзеянні з іншымі яе часткамі — педагогікай, адукацыяй, выхаваннем, асветай... Але студыя шчыльна працуе з Міністэрствам адукацыі, ствараюцца пазнавальна-навучальныя праекты «Беларуская азбука» (рэжысёр У. Пяткевіч) і «Азбука небяспек» (рэжысёр Т. Кубліцкая).

Галоўны плюс студыі — факт пастаяннай вытворчасці анімацыйных фільмаў. Зараз анімацыйная студыя «Беларусьфільма» цалкам фінансуецца дзяржавай, а гадавы метраж работ студыі ў цэлым складае каля дзевяноста хвілін. На сёння ў студыі анімацыйных фільмаў ёсць свая стратэгія: калі яшчэ некалькі гадоў таму студыя арыентавалася на аўтарскае кіно, то цяпер задача — ствараць мультфільмы для дзіцячай аўдыторыі, прычым шырокага ўзроставага дыяпазону. Але работы вядомых майстроў на пачатку новага тысячагоддзя сталі больш аднастайнымі па тэматыцы: рэпертуарная палітыка студыі скіравана на народныя і аўтарскія казкі з павучальнымі сюжэтамі і дыстыляванымі мастацкімі формамі. Нават майстар складанай жывапіснай анімацыі У. Пяткевіч звярнуўся таксама да казак для дзяцей, у тым ліку па заказе іншых краін.

На студыі здымаюцца фільмы ў рознай тэхніцы: маляваныя стужкі, лялечныя, перакладка (плоская марыянетка), пясок. Прайшоўшы ўсе этапы тэхнічнага прагрэсу, ад цэлулоіднага метаду да камп'ютарных тэхналогій, сёння студыя мае ўсё неабходнае камп'ютарнае ліцэнзійнае абсталяванне для здымак сямі 10 — 13-хвілінных фільмаў у год. Бывае, што адначасова працуе да дзесяці здымачных груп! Рэжысёр І. Воўчак рыхтуе дзіцячы фільм «Цуды ў дзень нараджэння», маладыя перспектыўныя рэжысёры Руслан Сінкевіч і Марына Лук'янава запусцілі праект «Незвычайны дзіцячы сад», а Н. Касцючэнка працягвае серыял «Пра дзяўчынку Жэню», пачаты вядомым рэжысёрам Т. Жыткоўскай. Т. Кубліцкая здымае фільм «Азбука небяспекі» паводле кнігі Андрэя Смятаніна, А. Турава працуе над праектам «Зоркі сёмага неба», аўтар якога — Генадзь Давыдзька. У. Пяткевіч і Д. Якутовіч рыхтуюць фільм «Беларуская азбука». Аднак часам мастакі працуюць на абсталяванні шасцігадовай даўніны, здымаюць фільмы ў няпростых умовах.

Важнай праблемай галіны застаецца поўнаметражны фільм, які азначае шлях да індустрыялізацыі і масавага гледача, таму што менавіта ён запатрабаваны пракатам. Вядома, што сусветная анімацыя арыентуецца на поўнаметражныя фільмы, якія бліжэй камерцыйнаму кіно, а яно ставіць высокія тэхнічныя патрабаванні. На жаль, студыя не можа арганізоўваць здымкі поўнага метра, таму што са старым абсталяваннем і вялікай занятасцю спецыялістаў поўнаметражны фільм будзе здымацца больш за тры гады. Студыя пакуль не гатовая для вялікіх праектаў, таму такі фармат умяшчаецца ў некалькіх серый — так атрымалася з фільмам «Прыгоды Несцеркі».

### КАДРАВАЕ ПЫТАННЕ

Складанай застаецца сітуацыя з кадравай палітыкай. У 2013 годзе на студыю прыйшлі шэсць выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў — маладыя рэжысёры, якія паказалі сябе ў цыкле «Аповесць мінулых гадоў». Цяпер на студыі засталося толькі двое — М. Лук'янава і Р. Сінкевіч, якія ад мікрафільмаў перайшлі да больш буйных праектаў. Але іншыя спецыяльнасці, на жаль, не папаўняюцца: напрыклад, мультыплікатара і мастака-прамалёўшчыка дагэтуль няма. Моладзі ў гэтай прафесіі мала, а Акадэмія мастацтваў прафесіяналаў з такімі спецыяльнасцямі не рыхтуе. Ёсць сфарміраваная група рэжысёраў, мастакоў, аператараў, аднак гэты падмурак не падмацаваны прафесіяналамі «другога звяна» — мастакамі, мастакамі-мультыплікатарамі, камп'ютарнымі дызайнерамі.



*Кадр з фільма «Аповесць мінулых гадоў».*

Сёння ў прадукцыі невялікай беларускай студыі можна знайсці разнастайныя анімацыйныя тэхнікі: класічны маляваны фільм, лялечную анімацыю, плоскую марыянетку і рэдкую ў свеце тэхніку «малюнка на пяску». У класічнай маляванай тэхніцы працуюць А. Ленкін і А. Турава. У тэхніцы класічнай перакладкі здымаюць У. Пяткевіч і І. Кадзюкова (якая, на жаль, зараз на студыі не працуе). Усе астатнія выкарыстоўваюць камп'ютарную перакладку. «Марк Шагал» А. Пяткевіч і «Ронда-капрычыёза» І. Воўчака — гэта змяшаная тэхналогія, але з вялікай доляй камп'ютарнай перакладкі. Ёсць і пясочная тэхналогія, складаная і багатая. У ёй створаныя фільмы «Жыло-было дрэва...» У. Пяткевіча, «Казкі лесу» і «Лафертаўская макаўніца» А. Пяткевіч. Зараз з пяском працуюць М. Тумеля і Г. Емяльянава ў цыкле «Аповесць мінулых гадоў», а таксама ў фільмах для замежных студый. Малады аніматар Р. Сянкевіч стварае стужкі ў тэхніцы пластыліну. Пасля заканчэння рэканструкцыі кінастудыі плануецца аднавіць вытворчасць лялечных анімацыйных фільмаў. Вядома, што многія аўтары замежных серыялаў, напрыклад, «Маша і Мядзведзь» і «Смяшарыкі», сышлі ў 3D-анімацыю. Гэтая анімацыя, вядома, больш складаная і дарагая па абсталяванні, праграмах, спецыялістах. А беларускія мультфільмы робіцца, галоўным чынам, з дапамогай рукатворных тэхналогій, якія, у адрозненне, напрыклад, ад тэхнікі флэш-анімацыі, больш багатыя і выразныя. Складанасць і ў тым, што анімацыю не здымаюць камерай, як у ігравым ці дакументальным кіно. Вядома, што секунда экраннага часу ўключае 25 маляваных карцін.

У апошнія гады з'яўляюцца прыклады незалежнага анімацыйнага кіно, якое ствараецца на прыватных студыях. З лістапада 2010 года працуе анімацыйная студыя пры Свята-Елісавецінскім жаночым манастыры ў г. Мінску. Зараз невялікі калектыў з пяці чалавек майстэрні працуе над двума праектамі: «Алфавіціца» і «Мульцікі для самых маленькіх». Студыя «*Digital light studio*» ў тэхніцы *3D* стварыла дзіцячы мультсерыял «Сонечныя зайчыкі» (рэжысёр Андрэй Ледзянёў). У інтэрнэт-прасторы папулярнасць набыў серыял «Дамавічок Плюх» («Першая КінаВідэаКампанія», рэжысёр Сяргей Талыбаў). Анімацыйная студыя «*CubinCup*» працуе над серыялам «Робікі» пра жыццё робатаў (рэжысёр Анатоль Бародзіч). На самай справе дзяржаўная кінастудыя пакуль не мае канкурэнтаў у галіне анімацыйнага кіно, але імклівае развіццё камп'ютарных тэхналогій і пашырэнне кола адукаваных спецыялістаў з веданнем камп'ютарнай графікі, напэўна, хутка прывядзе да з'яўлення канкурэнтаздольных незалежных (прыватных) студый.

### ЭФЕКТ ЛЮСТЭРКА

Наогул, беларуская анімацыйная творчасць выступае як самастойны культурны пласт са сваім нядоўгім, але значным гістарычным досведам, сваімі нацыянальнымі рысамі, як своеасаблівы рэтранслятар духоўных каштоўнасцей беларускага этнасу. Сёння можна казаць пра тое, што беларуская анімацыя прысутнічае ў айчыннай і еўрапейскай культурах як сацыяльна-мастацкі феномен. Пра гэта сведчаць прызы аўтарытэтных форумаў у Анэсі, Брусэлі, Клермон-Ферана, Лейпцыгу, Мангейме, Нью-Ёрку, Чыкага, Штутгарце і г. д. Беларускія майстры пастаянна ўдзельнічаюць у конкурсных праграмах Міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў «Крок» у Кіеве, які ўваходзіць у пяцёрку лепшых сусветных анімацыйных фестываляў, ладзіцца пад патранатам АСІФ (Міжнароднай асацыяцыі работнікаў анімацыйнага кіно) і з'яўляецца адзіным фестывалем такога ўзроўню ў краінах СНД; у Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно (Таруса, Суздаль). На фестывалях наша анімацыя заўсёды атрымлівае высокія адзнакі: напрыклад, фільм «Піліпка» прынёс шэраг станоўчых водгукаў з Германіі, Балгарыі, Чэхіі, Расіі.

Прызнаннем нашага кіно стаў паказ аўтарскай праграмы А. Пяткевіч у межах 35-га Міжнароднага кінафестывалю «Жанчыны ў кіно» ў 2013 годзе ў Фларэнцыі. Сярод апошніх узнагарод нашых аніматараў — прыз XI Сусветнага фестывалю анімацыйных фільмаў у Варне (Балгарыя) мультфільма «Казкі старога піяніна. Шапэн», дыплом міжнароднага фестывалю анімацыйных фільмаў «Крок» анімацыйнаму фільму «Аповесць мінулых гадоў. Ліда», узнагарода міжнароднага фестывалю анімацыйнага кіно для дзяцей і юнацтва *Constantine's Gold Coin* у Сербіі фільму «Песня Жаўрука». На XXIV Міжнародным славянскім кінафоруме «Залаты Віцязь» «Лыжка для салдата» і «Ронда-капрычыёза» атрымалі залатую і сярэбраную ўзнагароды.

Развіццё сучаснай нацыянальнай анімацыі нагадвае павольную, мяккую рэакцыю на сітуацыю ў сучаснай сусветнай анімацыйнай культуры, свайго роду «люстэрка», у якім своеасаблівa адлюстроўваюцца навацыі і дасягненні сусветнага кінапрацэсу. Прытым у айчынным мастацтве захавалася генетычная схільнасць да рэфлексіі, псіхалагізму, сцвярджэння гуманізму. Анімацыя звяртаецца да нематэрыяльнай спадчыны беларусаў, казак, прымавак, гісторыі краіны. Галоўная ментальная якасць сучаснай беларускай анімацыі — адкрытасць і шырыня мастацкіх кантактаў і ўздзеянняў, апора на культурныя вытокі і адначасова вернасць традыцыі. У гэтым сэнсе важная рыса беларускай экраннай творчасці — устойлівасць гуманістычнага пачатку, які заўсёды быў стабільнай маральна-этычнай канстантай этнасу і застаецца актуальным для сучаснай эпохі.

Вядомы беларускі аніматар А. Белавусаў казаў, што анімацыя на беларускай зямлі зараджалася тройчы і двойчы згасала. Першы раз гэта здарылася ў Вільні на мяжы XIX і XX стагоддзяў і было звязана з імем Уладзіслава Старэвіча — стваральніка аб'ёмнай анімацыі; другі раз нараджэнне і згасанне анімацыйнага кіно ў Беларусі адбылося ў канцы 1920-х гадоў як эпізод у прапагандысцкім кінематографе; трэці раз яно нарадзілася ў 1970-х гадах, паспяхова перажыло мяжу стагоддзяў і сягнула ў XXI стагоддзе. Варта заўважыць, што сваёй жыццяздольнасцю ў "трэцяй спробе", уменнем выжываць і пераадольваць цяжкія часы беларускае анімацыйнае кіно абавязана не толькі аніматарам. Да анімацыйнага кіно прыкіпелі душой шматлікія выдатныя беларускія творцы — мастакі, архітэктары, музыканты, якія сталі мультыплікатарамі і рэжысёрамі, а таксама літаратары — Віталь і Артур Вольскія, Валянцін Тарас і Сяргей Булыга, кампазітары — Леанід Захлеўны, Эдуард Зарыцкі, Эдуард Ханок і многія іншыя. Нездарма знакаміты рэжысёр і тэарэтык кіно Сяргей Эйзенштэйн казаў, што «лепшая форма кіно — гэта мультыплікацыя, таму што мы маем над ёю поўную ўладу».

**Антаніна КАРПІЛАВА**

# ЭКЗІСТЭНЦЫЯ ЖАХУ І ЧЫСТЫЯ КРОПЛІ ДАЖДЖУ

*На сваёй струне*



**Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар**

***«Гэты свет, якім ён ёсць, вытрываць нельга. Вось чаму мне патрэбна поўня, ці шчасце, ці неўміручнасць, ці нешта вар'яцкае, але толькі не адсюль, не з гэтай рэальнасці».***

**(А.Камю)**

***

Дзень акрэсліў мяжу. Мяжа выцягнулася сцяной і ўтрымлівалася спыненым часам. Пырснулі гукі. Каляровыя фантанчыкі неба: гукавая жменя для знаёмства, яшчэ адна — для здзіўлення, астатняя — для асалоды. Зайграла думка, бліскавіцамі замігцелі і разляцеліся ідэі, зернем рассыпаліся тэмы-характары. Самаарганізавалася, згарманізавалася гукавая плынь, гатовая зрушыць наваколле. На падножжы спыненага часу не здзейснены першы крок. Наперадзе — бязмежжа, багацце варыянтаў, хвалі разнастайнасці.

Сёння неба васямнаццатага стагоддзя і дзень разбудзіў устойлівасць, сцвярджэнне, радасць і бадзёрасць. Трыццаць два такты Моцарта. Трыццаць два такты маладой энергіі, даверлівасці, адкрытасці. Трыццаць два такты вясёлага падарожжа: «Нібы ляціць, плыве ў паветры на нейкім дзіўным караблі…» — з неба дваццатага стагоддзя — Якуб Колас.

«Іншa-жыццё» творцы не скінеш як прашыты золатам камзол, як белыя шаўковыя панчохі і пыльныя пантофлі на чырвоных абцасах з бліскучай спражкай. Музыкай можна пашыраць межы, а лёгкім фізічным і эфірным целам працей дасягаць мэты. Другая сустрэча з Венай навучыла зазямляцца. Пуншам. Дома. На прыёмах — лёгкімі стравамі перад дэсертам. У кавярні — славутым венскім печывам пасля ранішніх канцэртаў у аранжарэі Аўгартэна — імпрэзы не столькі для эстэтычнай асалоды, колькі для стварэння добрага настрою гараджан. Дзённыя сустрэчы, знаёмствы, візіты да выдаўца Тратнера і батаніка Жакена. Шпацыр, музыка і танцы — час «смажанай курыцы» гурманаў-венцаў.

Рэальнасць зрушвалася з 6 да 9 раніцы. Музыкай. Вярталася забытае супакаенне. Запісаць «інша-рэальнасць»— асноўны занятак. Самы марудны і пакутны. Пераход плыннай матэрыі ў графічны каркас нотнай партытуры. Пераход — пераступіць парог. Пераход — шнар. І гэта — найлепшае ў тым венскім жыцці — суцэльным ланцугу расчараванняў і засмучэнняў.

Музыку «шукаць» няма патрэбы. Яна гучыць заўсёды. Цяжэй знайсці зямную адпаведнасць. Пакуты мастака тут. Для Анёлаў — гульня, для чалавека — работа. Ад гэтага ўмельства (з цягам часу майстэрства) залежыць рэальнасць: яна крышталізуецца і застаецца такой надоўга. Кветка на зямлі — і тая створана не са святла, як ёсць на іншых планетах (сны — надзейныя праваднікі), а з тонкай раслiннай матэрыі. Інфармацыя, трансляцыя, дасланне, спосаб камунікацыі. Кожны фрагмент музычнай матэрыі сам за сябе сведчыць, з чаго ён зроблены і як яго чытаць. Мана, калі яна ёсць, відаць адразу. Вы яе «чытаеце» нават тады, калі пра гэта не думаеце. Гэта як успрымаць інфармацыю ад з'едзенага яблыка ці бульбы. І ў музыцы трэба быць пераборлівым. Думай, што паглынаеш… Карл Барт сумняваецца, ці граюць анёлы Баха ў прысутнасці Бога, але ўпэўнены, што ў сяброўскім сваім атачэнні яны граюць Моцарта.

***

Рэальнасць шумела за мутным шклом. Жыццё самазахавалася тым, што выкацілася, самавыдалілася з агульнай «сістэмы». Засталіся сухія трэскі віртуознай камунікацыі: прывітацца пры сустрэчы, увайсці ў тралейбус, зачыніць шчыльна дзверы. Тоўстае, мутнае шкло стала мяжой паміж «тым», безаблічным, нецікавым, і «гэтым», здранцвелым, скамянелым, ледзь жывым. Здолеў выжыць толькі розум. Гэта ён, адчужана, нібы стары сабака з буды, назіраў за перамяшчэннем падзей.

З кароткіх гукаў, паўз і самотных даўгіх унісонаў паўстае цішыня і прастора. Нагрувашчаныя цагліны-акорды рознай шчытнасці, счэпленыя лаканічнай, лапідарнай скразной тэмай, акрэсліваюць замкнёную сферу…

Рэальнасць глуха шуміць за мутным шклом, а на парозе шкляных дзвярэй тупаюць кампазітары. Некаторыя з іх раз-пораз запрашаюцца за зачыненыя дзверы: у глухі, без ветру і птушак, апендыкс рэальнасці. Нешта распавядаюць. Душэўна шчыруюць. Граюць музыку — сваю, інтэрпрэтуюць — чужую. Жыццё ў боксе-апендыксе не мяняецца, застаецца бяздзейсным. Густая залацістая вадкасць, што струменіцца па празрыстых трубках, падключаных да агульнага цела, забяспечвае адсутнасць рэакцый і абсалютны пакой.

Праўда кампазітара пра сябе — у мінорных сімфоніях. У Гайдна іх адзінаццаць. Са ста сямі. У Моцарта — дзве з сарака адной (па Кёхелю). Мінорная сімфонія — рэдкая з'ява пад небам васямнаццатага стагоддзя. Мажорныя пісаліся пераважна па замове заможнай эліты. Мінорныя — для сябе.

***

*Але чаму ты скуп, паэце?*
*Твае дзе творчыя шляхі?*
*Ці ты сляпы? Ці ты глухі?*
*Ці ты жывеш у ліхалецці?*
*Ці ты што маеш на прымеце?*
*Ці тоіш намысел ліхі?*

**(Якуб Колас)**

Герметычная прастора, замкнёная на самой сабе, укаранёная ў сваё «нішто». Звонку — пошум постмадэрнісцкай абыякавасці, шумнае гукавое смецце. Размовы з нагоды апошняй зарплаты ці «зоркі героя» на лацкане служкі-дырыжора. Чуткі-плёткі ў сацыяльным павуцінні. Панылы тэлесерыял аднолькавых перамог аднолькавых людзей. Тонкія карункі гістарычных тэкстаў, народжаныя за халоднымі сценамі сумных аграгарадкоў. Тонкія сцены — важнае палітычнае рашэнне, здольнае забяспечыць пошукі неабходнай калькацыі матэрыялу: заканапаціць шчыліны ў пазах. «Замест прагрэсу, развіцця ідзе жывое вынішчэнне жывой энергіі, дабра, грыміць крывавая ігра — псіхоз і мозгу атручэнне. Вар'яцтва, шалу спалучэнне, — пара задумацца, пара!..» (пісаў пра гэты стан Якуб Колас). Размаўляць — з самім сабою. Музыку пісаць — ні для кога.

Беларуская музыка маўчыць, бо прэтэндуе на большае, чым проста музыка. Перапоўненая пачуццямі, ад лішку іх пачынае заікацца. Камлі перажываннаў храснуць у гартані. Каб застацца жывой — вымушана праглынуць. Акт стварэння не адбываецца. Эпоха ўсеагульнай свабоды слова дыскрэдытавала само слова. Засталося карыстацца абсалютам. Як пінцэтам. Скальпелем. Але перавага — за бінтамі — перавязачным матэрыялам. Дэфіцыт. Змочаная ў цукрозе марля накладаецца на сэрца, вочы, рот… Губайдулінска-дзянісаўска-шніткаўскае лёгканалежнае дысідэнцтва з творамі супрацiўнай маніфестацыі не прыжываецца. Музычных падзей няма. Супрацьстаянне плёну не прыносіць. Стары досвед неактуальны. Вось тут усё і пачынаецца. Суцэльная цемра абяцае суцэльнае святло. Цемры трэба альбо дачакацца, альбо заслужыць…

***

Часты і дробны шум дажджу, яго танец на лісці найбліжэйшай бярозы запрашаў да сябе. Запрашаў ва ўтульную шапатлівую гукавую дружыну. Можна было лёгка нырнуць у тое шапаценне, разнастайнае гукавое крапаценне. І не засынаць. Наталяцца гаючым шумам, заглыбляцца ім, патанаць, разнявольвацца, вызваляцца слыхам ад гукаў пустаты і здранцвелай цішыні.

Свядомасць, зачапіўшыся краем слыху за сімфонію дажджу, утрымлівалася на хісткай жэрдцы да апошняй кроплі-ноты. Ветрык зрушыў вільготную сцяну, сцярусіў яшчэ жменю кропель на зялёнае лісце і сумныя лужыны. Жыццё ўсміхнулася, падзякавала за дажджыную радасць. Ляцець не было куды. Хмары разышліся. Дождж знік. Некалькі жывых, дрыготкіх кропель яшчэ можна было паспець зняць з зялёнага лістка, падчапіць на палец і павесіць завушніцамі на слых.

Слухаць.

Рэальнасць музычная. Туды можна патрапіць пры намаганні асаблівага кшталту. Быць там, адпачываць, страсаць ружовыя зоркі бэзу разам з кроплямі расы: наталяцца, здзіўляцца, прыжмурвацца ад асляпляльнай радасці. Сон? Нязведаная рэальнасць як умова будучага стварэння? Кожны новы раман, новая сімфонія — крок у «не ведаю куды». Стан пачаткоўца — няўпэўненага і нічым няўзброенага…

«Веды толькі ў юнацтве прыносяць радасць», — шэпча старонка з кніжкі кітайскага мудраца. — «У сталасці іх не заўважаеш, у старасці яно абцяжарвае. Абцяжарвае, калі не ператвараецца ў паэзію-музыку — як расплаўлены метал у дзевяць званоў на гары Фэньшань, якія звоняць, ледзь на іх асядзе шаць. Сэрца паэта — фэньшаньскія званы, яму дастаткова шацi». Звон наближаецца, знікае. Калыхаецца мілагучным маятнікам. Слаіцца, распадаецца. Гукавыя атожылкі выдратоўваюць сабе новыя лапінкі зместу для чараўніцтва. Звон пераліваецца, гучыць, гуляе толькі што народжанымі абертонамі і, па законе музычнага прыцягнення, супадае са звонам струны скрыпкі.

***

Калі архітэктура — спыненая, скамянелая музыка (прыпісваюць Гётэ), то стварэнне музыкі — працэс узвядзення вялікага збудавання. Законы прапорцый, арганізацыі архітэктурнай прасторы — ледзь не адно і тое ж.

Што адбудзецца, калі раптам гучанне бетховенскай партытуры спыніць? У хуткім часе нехта абавязкова паспрабуе гэта зрабіць. Нехта, хто аднолькава будзе дасведчаным у сучасных тэхналогіях і сусветнай музыцы. Своеасаблівы тэхналагічны жарт. Бясцялеснае ўваходжанне ў найвышэйшы свет ведаў. Уваход у гучанне сімфоніі з любога такта, з любога абранага фокуса, які дазволіць «разгледзець» крыжовыя скляпенні, злучэнне ліній, аркатуру тэм, каларыстыку фрызаў і ўстойлівасць франтальных гарызанталей, дзе кожны новы абраны такт партытуры, змяніўшыся, застаецца ранейшым, а непаўторная гукавая галаграма нараджае новыя дзівосы, пра існаванне якіх ці здагадваўся сам Бетховен?

А Моцарт пачуў і прызнаўся: «Я не чую ў сваім уяўленні музычныя фрагменты, я чую ўсё адразу. І гэта асалода».

***Мастацтва — сведчанне Бясконцасці. Фрагмент нетутэйшай рэальнасці. Праекцыя ў зямное жыццё. Ілюзія. Чысціня слязы. Крышталь, што зберагае вобраз. Крышталь, што бесперапынна мяняе аблічча.***

***«Я перакананы, што існуюць універсальныя плыні Боскай думкі, якія памнажаюць эфірныя вібрацыі, і кожны, хто мае здольнасць адчуваць гэтыя хістанні-ваганні, застаецца натхнёным».***

**(Р. Вагнер)**



Фота Дар'і Кабернік.

# УЗРОВЕНЬ АДЧУВАЛЬНАСЦІ

## ў снах Аляксея і Анастасіі Урублеўскіх

Калі нам сніцца сон, мы спрабуем разабрацца ў ім, зразумець, пра што ён папярэджвае альбо што абяцае. Сны могуць быць рознымі: могуць падштурхнуць да прыемных успамінаў альбо, наадварот, зачапіць балючыя ноткі душы, пра якія ў паўсядзённасці спрабуем забыць. Мастакі Аляксей і Анастасія Урублеўскія раскрываюць філасофію сноў праз мастацкія творы, паказваюць, як сны ўплываюць на свядомасць — на ўласным прыкладзе. Пабачыць іх «Каляровыя сны» можна ў арт-гасцёўні «Высокае места».

Творцы працуюць у розных жанрах. Калі Анастасія пераносіць сны на жывапісныя палотны, то Аляксей трансфармуе іх праз скульптуру. Разам творы аўтараў выглядаюць арганічна і дапаўняюць адзін аднаго. Спачатку глядач сустракаецца з рамантычным жывапісам Анастасіі, з яе тонкім адчуваннем колеру. Яна размяжоўвае сны на каляровыя і чорна-белыя. Апошніх у экспазіцыі практычна няма, але ж так і было задумана: мастачка наўмысна запрашае гледача стаць удзельнікам яе добрых, пяшчотных сноў. Аляксей жа паказвае сны ў аб'ёме. Філасофія яго падсвядомасці раскрыта праз вобразы людзей. Фантазія яго бязмежная: выяўляе прыгожых жанчын з рознымі формамі, якія нібы застылі ў вечнасці.

Маладыя аўтары аб'яднаны не толькі творчым тандэмам, але і сямейным. Таму свае сны абмяркоўваюць разам, дапамагаюць адзін аднаму зразумець іх сэнс.

— Творчую сям'ю Урублеўскіх характарызуе жаданне вучыцца і ўдасканальвацца, — падкрэсліла на адкрыцці праекта дырэктар Музея гісторыі горада Мінска Галіна Ладзісава. — Аляксей прайшоў творчы шлях ад пачатковай ступені адукацыі да Варшаўскай акадэміі мастацтваў. Анастасія вырасла ў мастацкай сям'і. Таму яны ведаюць, да чаго імкнуцца. Выстаўка «Каляровыя сны» дэманструе ўласцівы для мастакоў стан гармоніі і дабрыні. У мастака ўнутраны падсвядомы свет развіты больш, чым у звычайнага чалавека, а калі гаворым пра сям'ю мастакоў — гэта яшчэ больш высокі ўзровень адчувальнасці. Мы ведаем шмат сем'яў артыстаў, музыкаў, але сем'і мастакоў — асобная катэгорыя: гэтыя людзі павінны ўмець прымаць творчасць адзін аднаго. Вельмі цікава, калі кожны член сям'і захапляецца асобным жанрам мастацтва, гэта вучыць аўтараў больш глыбока акунацца ў працэс, іх яднаюць агульныя эмоцыі. Так атрымалася і ў творчасці Аляксея і Анастасіі: яны гарманічныя і яркія, іх творы натхнёныя, насычаныя глыбокімі філасофскімі думкамі. У свеце мастацтва няпроста, таму аўтары імкнуцца адзін аднаго падтрымаць. Калі ёсць плячо, паразуменне і парада, мастакам лягчэй, яны ведаюць, што іх творчасць не засталася па-за ўвагай, што яна цэніцца любімым чалавекам.



*Аляксей Урублеўскі «Мелодыя», 2014 г.*

Ёсць два варыянты развіцця сямейна-мастацкага тандэма. Бывае, мастакі натхняюцца адзін адным, падтрымліваеш рашэнні і задумы, а бывае — пачынаюць канкурыраваць. Анастасія і Аляксей выбралі першы варыянт: сёння мастакі жывуць і працуюць у Лідзе, там жа развіваюць сучаснае мастацтва. Гармонія дапамагае ім не толькі будаваць сямейную прастору, але і развівацца творча.

— Ніколі не задумваемся, што мы сям'я мастакоў, мы ў першую чаргу проста сям'я, — адзначае Аляксей Урублеўскі. — Ведаем, што ёсць праблема суіснавання творцаў разам, але тут трэба зрабіць выбар: ці падтрымліваеш каханага чалавека, ці канкурыруеш. Выбар зрабілі даўно. Я і Насця па-свойму касманаўты, у нас у кожнага асабісты творчы свет, у якім мы не перасякаемся, таму што я займаюся скульптурай, а яна — жывапісам. Часам я бяруся за пэндзаль, але Насця не вучыць мяне, як правільна. Яна можа даць параду, падтрымаць, матывуе развівацца шматгранна. Хоць крытыка ў разумных межах патрэбная, але мы неяк больш радуемся поспехам адзін аднаго. Не хачу спаборнічаць, бо спаборніцтва ў сям'і да добрага не прывядзе. У кожнага з нас ёсць патэнцыял і ўласныя мэты, якія не шкодзяць сям'і.

Тэма выстаўкі, прысвечаная снам, абрана невыпадкова. Аўтары, перш за ўсе, жадалі аб'яднаць гледачоў важнымі, блізкімі кожнаму матывамі. І гэта атрымалася. Многіх наведвальнікаў выстаўкі зацікавілі дзве скульптуры Аляксея Урублеўскага, выраблены з палявых камянёў, на якіх скульптар выразаў два кранальныя твары.

— У 2014 годзе я ўдзельнічаў у пленэры, дзе майстры стваралі скульптуру з каменю. Я зрабіў усё, што трэба было для пленэру, і ў мяне вызваліўся час, — расказвае Аляксей Урублеўскі. — Я ўбачыў прыгожы камень і адразу ж разгледзеў у ім рысы чалавека. У чым хараство палявога каменя? Ён мае форму, характар, колер, фактуру, якую толькі трэба правільна падкрэсліць. Я ўбачыў у камені твар і адлюстраваў яго. Бо творчасць — гэта фатаграфія стану. Існуе меркаванне, што са з'яўленнем фотаапарата мастакі страцілі папулярнасць. Але мы больш хітрыя, мы не паказваем відавочнае, а перадаём унутраны стан, энергію чалавека альбо з'явы. Цікава, што мастак можа мяняцца, сталець, але яго творы перадаюць той стан, у якім ён жыў у пэўны момант.



*Анастасія Урублеўская «Сон», 2013 г.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс

Вуліца Савецкая, ці Брэсцкі Арбат, — улюбёнае месца адпачынку гараджан і такое ж прыцягальнае для шматлікіх турыстаў. Тут шмат кафэ (адкуль чутны водар кавы), брэндавых крам, цырульняў, аптэк. Асабліва вабяць вока гасцей горада над Бугам маляўнічыя фасады і дахі, ліхтары і скульптурныя кампазіцыі, якія выглядаюць незвычайна падчас вячэрняга падсвечвання.

Гуляючы па Савецкай, нельга не звярнуць увагу на адзін неверагодны помнік — скульптурную кампазіцыю «Стары горад», афіцыйнае адкрыццё якой адбылося напярэдадні новага 2009 года. Гісторыя помніка такая ж пацешная, як і ён сам. Папраўдзе, гэта дапрацаваная чатырохметровая вентыляцыйная труба, якую немагчыма было знесці. Затое атрымалася па-мастацку абыграць яе знешні выгляд. Калі не ведаць інжынерных тонкасцей, то і не здагадаешся пра прызначэнне невялікага рашэцістага акенца, умела ўбудаванага ў кампазіцыю са старымі хатамі і коткамі. Аўтар ідэі, мясцовы скульптар Руслан Усманаў, над ідэяй помніка дваровым коткам, якія сядзяць на дахах хат, працаваў ужо даўно. Варта адзначыць, што жывёлы былі злепленыя з сапраўдных котак. У любы час каля кампазіцыі можна заўважыць людзей, якія з задавальненнем фатаграфуюцца побач.



Часта сюды прыязджаюць маладыя, каб павесіць на помнік чырвоныя сэрцы або дадаць некалькі фігурак катоў. Асабліва рамантычна скульптурная кампазіцыя выглядае ўвесну, калі ўздоўж вуліцы пачынаюць зелянець дрэвы, а горад напаўняецца турыстамі, якім настальгічная кампазіцыя «Стары горад» прыйшлася даспадобы з першых дзён адкрыцця.

**Тамара КІРДЗЯШАВА**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
16 +
Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»
Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
27.07.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1506.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 2592
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.



ISSN 0024-4686